


# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

25 кастрычніка 2019 года №43 (1278)

18+



# Фестываль «Прышчэпка» ў Маладзечне зладзілі самі жыхары

старонка 18

На фота Андрэя РАГІНСКАГА – удзельніца фэсту Кацярына Плюто.

## Як працуюць мясцовыя дэпутаты ў Вілейцы і чым яны могуць дапамагчы

старонка 8

## Як ратавацца ад грызлі і якія мядзведзі любяць чарніцы, распавяла маладзечанскім школьнікам рэйнджар з Аляскі

старонка 20

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



MMZ

# «Не пашкадаваў ні разу, што прыйшоў працаваць на ММЦ»

## Мінскаму мэблеваму цэнтру спаўняецца 30 гадоў

**Беларуска-германскае прадпрыемства «Мінскі мэблевы цэнтр» 29 кастрычніка адзначае 30-годдзе. За сваю гісторыю кампанія ўразы павялічыла тавараабарот, разнастаіла лінейку вырабленай мэблі.**

Цяпер ММЦ – адно з найбольш паспяховых экспартаарыентаваных прадпрыемстваў Беларусі. Мэбля з Маладзечна экспартуецца ў ЗША, Заходнюю Еўропу, Расію і Казахстан. ММЦ супрацоўнічае з найбуйнейшымі кампаніямі – IKEA, OTTO, Mobelvertriebs GmbH, XXX Lutz.

**Арыгінальнасць прадпрыемства заключаецца не толькі ў тым, што большая частка прадукцыі экспартуецца, але і ў тым, што ўся мэбля робіцца з аднаго віду дрэва – сасны.**

«Рэгіянальная газета» пагутарыла з прадстаўнікамі прадпрыемства, якія распавялі гісторыі пра тое, як прыйшлі ў кампанію і як ММЦ змяніўся за час іх працы.

**Аляксандр Свянціцкі, начальнік участка складавання і сушкі піламатэрыялаў:**



– Я прыйшоў на прадпрыемства адразу пасля арміі ў якасці простага рабочага. Гэта было ў 1994 годзе. На маім участку была невялікая цукучка, некаторыя людзі да гэтага часу працуюць разам са мной. Спачатку нас было чацвёра, а цяпер – 20 чалавек. З усімі калегамі падтрымліваю добрыя адносіны, але як начальнік трымаю субардынацыю. Усё жыццё хаджу на працу як на свята: з душой і палымяным позіркам. Я лічу, што раблю нешта патрэбнае. Мне падабаецца тое, што я раблю і як гэта раблю. Не пашкадаваў ні разу, што прыйшоў працаваць на ММЦ.

Прадпрыемства моцна змянілася. Калі толькі адкрываліся, мэбля з хвоі была ноу-хау. Матэрыял быў непапулярны, а потым стаў запатрабаваным. А яшчэ раней адходы вытворчасці вазілі ў калгасы і на фермы. Тады іх нельга было нідзе ўжыць, яны былі нікому не трэба. І з'явілася тэхналогія пялетаў, або паліўных гранул. Некаторыя ўмельцы прыдумалі іх выкарыстоўваць як напаўняльнік для дамашніх жывёл – гэта такая наша народная тэхніка. Аднак першапачаткова іх распрацавалі выключна для ацяплення. Нашы пялеты, якія мы вырабляем тут, самай высокай якасці.

**Наталля Курган, намеснік генеральнага дырэктара па фінансавых пытаннях:**



– Я прыйшла на прадпрыемства ў 1990 годзе эканамістам па ўліку. Ездзіла кожны дзень у Мінск у банк, друкавала плацёжкі, а потым у Крупкі на лясную вытворчасць.

**У 1990-м, калі я прыйшла сюды, тут у Маладзечне нічога не было. У цэху толькі паклалі падлогу.**

ММЦ планавалі рабіць у Лагойскім раёне, але потым тая пляцоўка аказалася непадрыхтаванай. Першапачаткова экспартавалі дошкі і шчыты ў Германію. Мэблю рабілі не адразу, асвойвалі абсталяванне. Ды і мэбля тады была вельмі простая: камоды, паліцы, буфеты. Зараз мы працуем з кампаніямі, якія распаўсюджваюць мэблю па ўсім свеце. Асноўная частка прадукцыі ў нас ідзе на экспарт, некаторую прадаём у Беларусі, але гэта зусім невялікі працэнт.

Прадпрыемства, якое было раней і цяпер, – гэта неба і зямля. Па-першае, мы сталі высокатэхналагічнымі, надаём вялікую ўвагу экалагічнай вытворчасці. Па-другое, мы ўжо вырабляем іншую і больш складаную мэблю. Нельга параўнаць мэблю, якую мы рабілі тады і якую мы робім цяпер. Па вялікім рахунку, на дадзены момант мы можам зрабіць усё з такім абсталяваннем.




Калектыў ММЦ.

**Васіль Сырэц, галоўны інжынер:**



– Я прыйшоў на прадпрыемства ў 1994 годзе інжынерам-канструктарам. У мае задачы ўваходзіла канструяванне мэблі, хоць тады рабілі яе няшмат. Таму я быў яшчэ прыкамандзіраваны да галоўнага механіка, з кім займаліся абсталяваннем. Гэта было неўласціва для маёй спецыяльнасці, але ўсё адно таксама важна для разумення працэсу. І вось спачатку я быў інжынерам-канструктарам, потым узначаліў канструктарска-тэхналагічны аддзел. Тады ў мяне ў падначаленні быў адзін канструктар і два тэхнолагі.

**Сёння ў нас два аддзелы: у канструктарскім працуе 9 чалавек, а ў тэхналагічным – 12.**

У нас у ММЦ любяць мераць мэблю ў кубах, таму эвалюцыя прадпрыемства прайшла з 100 $м^3$ да 1300 $м^3$.

Запуск пялетаў – гэта была наша інвестыцыйная палітыка і вялікі крок для прадпрыемства. У наступным годзе мы плануем паставіць кацёл, сушыльныя камеры, што дасць зэканоміць на перавозках, таму што сухі лес вазіць значна больш выгадна.



# У Мядзеле замест перасадкі дрэвы выкарчоўваюць і паляць

**На выездзе з Мядзела раскінуўся сядзібны мікрараён. Тут на ўскрайку горада ідзе барацьба за кавалак зялёнай зоны з сасновым самасевам, на месцы якога запланаваныя 22 участкі пад індывідуальную забудову.**

МЯДЗЕЛ

Камазы снуюць туды-сюды і вывозяць пясок, час ад часу праязджае трактар, у прычэп якога згружаны выкарчаваныя елкі і бярозкі ў залатой лістоце. Экскаватарам і трактарам вычысцілі ўжо добры кавалак пляцоўкі пад будучыя ўчасткі.

Як адзначае жыхар мікрараёна Бальнічны Іван (імя па просьбе героя зменена), раней на гэтым месцы было поле, якое засявалі жытам. Пасля тут пачалі пасвіць жывёлу, а потым і зусім закінулі. Узгорак парос сасняком, ператварыўшыся ў грыбное месца.

– Гады тры таму з'явіліся праектанты і сказалі, што тут павінна штосьці будавацца, – распавядае герой. – Уся паласа самасеву ўвайшла ў гэту тэрыторыю.

Па словах мужчыны, рабочая тэхніка прыехала яшчэ летам, але тады ўдалося адбіцца ад пачатку работ, бо ў іх навват пашпарта аб'екта не было.

Рабочыя вярнуліся восенню. Спачатку міліцыя выязджала па выкліках людзей, намагалася разабрацца і нават спыніць працэс да высвятлення ўсіх абставін. Сёння ж карціна іншая: актывісты і мясцовых выклікаюць да ўчастковага нібыта за незаконнае пранікненне на будаўнічую пляцоўку. Вось толькі дзе пачатак і канец пляцоўкі – сказаць цяжка, тэрыторыя ніяк не агароджаная. На ўездзе ад дарогі на Мядзельскую Кальварыю з'явіўся пашпарт аб'екта.

Па таксацыйным плане на тэрыторыі пад забудову расце 946 дрэў, 891 з якіх мяркуецца перасадзіць. Аднак спецыялісты сцвярджаюць, што без спецыяльнай тэхнікі, адукацыі людзей і падрыхтоўкі як самога пасадачнага матэрыялу, так і месцаў гэта – марная праца, бо дрэвы не прыжывуцца.

Жыхары мікрараёна мяркуюць, што выканаўцы пачалі перасадку і толькі потым зразумелі, колькі грошай і часу яна будзе каштаваць.

Ці можна было зрабіць інакш?

– Мы размаўлялі з інспектарам аховы прыроды. Маўляў, ну хай сабе, рэалізуйце вы праект там, дзе пуста, нічога не расце, – паказвае Іван па правы бок, да дарогі на Кальварыю, дзе сапраўды няма дрэў.

Цяпер на самай гарадской мяжы, дзе за шэрым бетонным плотам размяшчаецца Мядзельскі ПМС, густымі клубамі разыходзіцца дым. Гэта рабочыя прадпрыемства спальваюць рэшткі дрэў, што трактарам прывозяць з пляцоўкі ад мікрараёна Бальнічны.

... Да месца падвозяць новую партыю «дроў», што выгружаюць ля вогнішча. Сюды альбо на сметнік трапляюць буйныя дрэвы.

– Пра перасадку практычна ўжо і не ўзгадваюць, кажуць, хворыя дрэвы, – адмахваюцца рукой мясцовыя жыхары.

А што з меншымі дрэвамі? Як падкрэсліў актывіст і каардынатар ініцыятывы «Зялёны Дазор» па Мядзельскім раёне **Станіслаў Таспаеў**, яму ўдалося вывязіць 90 саджанцаў, «свежых» перасадак непадалёк ад гарадскога пляжа – гэта зусім невялікія саджанцы.

Пабачыўшы, што адбываецца, Станіслаў выклікаў міліцыю. Па яе прыездзе рабочыя пацыху пачалі збірацца. Аднаго пакінулі сачыць за адкрытым агнём.

Наколькі мэтазгодна распрацоўка новых участкаў пад індывідуальную забудову? Актывіст і жыхары пацікаюць плячыма: недахопу ў землях у горадзе і вакол няма.

«Здаровы сэнс у гэтым цалкам адсутнічае. Зараз яны за нашы грошы, бюджэтныя сродкі вынішчаюць прыроду. А дзе гарантыі, што ўчасткі гэтыя пасля з аўкцыёну не пойдуць? Калі не набываюцца ўжо існуючыя землі», – абураецца Станіслаў Таспаеў.

**Хрысціна ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**greenbelarus.info.**



Настаўнікі дзеляцца досведам.

# Настаўнікі з рэгіёна сабраліся, каб захаваць вадаёмы

**Настаўнікі біялогіі, хіміі і геаграфіі з Маладзечаншчыны, Валожыншчыны, Вілейшчыны і Смаргоншчыны сабраліся 18 кастрычніка ў маладзечанскай школе №9 на семінар, што зладзіла рэспубліканская грамадская арганізацыя «Жывое партнёрства».**

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН
СМАРГОНЬ

«Жывое партнёрства» прадстаўляла жыхарка Вілейкі **Ларыса Якавюк**. Яна распавяла аб праекце арганізацыі «Прадухіленне забруджвання прыродных вадаёмаў праз далучэнне моладзі і школьнікаў». Праект рэалізуюць у супрацоўніцтве з нідэрландскай арганізацыяй INV natuur educatie пры падтрымцы Нідэрландскага фонду рэгіянальнага партнёрства. Да праекта далучыліся таксама Цэнтр экалагічных рашэнняў і Цэнтральны навукова-даследчы інстытут комплекснага даследавання водных рэсурсаў.

Арганізатары забяспечаць настаўнікаў метадычнай дапамогай, раздатачнымі матэрыяламі, тэст-наборамі і тэст-палоскамі для даследаванняў вады.

### Каля 20 тысяч рэк? Вы сур'ёзна?

Чаго ж чакаюць ад настаўнікаў? Навукоўцы з навукова-даследчага інстытута – дапамогі ў інвентарызацыі вадаёмаў.

– З савецкіх часоў з падручніка ў падручнік па геаграфіі пераходзяць наступныя лічбы: у Беларусі каля 20 тысяч рэк і каля 10 тысяч азёраў. Але ці можам мы быць упэўненыя ў гэтых лічбах. Таму наша задача сабраць звесткі, месца размяшчэння, каардынаты ўсіх вадаёмаў у Беларусі. Мы праводзім інвентарызацыю вадаёмаў каля пяці гадоў. І за гэты час налічылі прыкладна па тысячы рэчак у кожнай вобласці, – распавяла ў сваім выступленні навуковы супрацоўнік сектара дзяржаўнага воднага кадастра навукова-даследчага інстытута **Алена Грамадская**.

### Прыбяруць смецце, праверац якасць вады

Арганізатары чакаюць, што педагогі і іх вучні ў сваёй мясцовасці правядуць акцыі па прыборцы смецця ля вадаёмаў, праверацьякасць вады ў калодзежах і знойдуць крыніцы забруджвання, пра сваю дзейнасць раскажуць у сродках масавай інфармацыі.

Каардынатар праектаў Цэнтра экалагічных рашэнняў **Наталля Парэчына** прыгадала, што некалькі год таму цэнтр пачаў супрацоўнічаць з педагогамі Вілейкі. Тады настаўніца біялогіі сярэдняй школы №3 **Людміла Анасовіч** і педагог Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Наталля Сухан** распрацавалі для вучняў Праграму назірання за рэкамі. У школе з'явілася адпаведнае аб'яднанне па інтарэсах.

Цяпер на сайце Цэнтра экалагічных рашэнняў ёсць гэта праграма. Прычым там пазначаныя не толькі тэмы, як ва ўсіх навучальных праграмах, а да кожнага занятку ёсць шмат матэрыялаў.

### За што бацькі малых дзяцей дзякавалі вілейскім настаўнікам

Дзякуючы супрацоўніцтву з Цэнтрам экалагічных рашэнняў у вілейскай школе №3 з'явіўся водны інфармацыйны цэнтр. Пра яго дзейнасць расказала педагог Людміла Анасовіч:

– Даследаваць ваду мы з вучнямі пачалі ад 2007 года. Цэнтр адкрыўся ў 2014. Мы з дзецьмі рабілі экспрэс-аналіз вады ў Віліі, правяралі на нітраты пітную ваду. Маштабнай атрымалася акцыя «Парашок без фасфатаў». Мы заходзілі ў крамы і правяралі на ўпакоўках з пральным парашком, колькі фасфатаў утрымлівае той ці іншы мыйны сродак. У выніку высветлілі, што адзін пральны парашок вельмі вядомай маркі ўтрымлівае недапушчальную колькасць фасфатаў. А між іншым, парашок гэты прызначаны для мыцця дзіцячага адзення.

> **Па словах настаўніц, яны нават атрымлівалі падзякі ад бацькоў, якія не маглі зразумець, на што ў дзіцяці алергія. А дзякуючы даследаванням даведаліся, што ад парашку.**

Тады ж у вілейскіх крамах з'яўляліся допісы ад дзяцей і настаўнікаў з просьбай прывезці парашок без фасфатаў.

### Першыя экспедыцыі запланавалі на восень

Наталля Парэчына расказала, як працаваць з тэст-палоскамі для вызначэння нітратаў у вадзе. Віляйчанін **Міхаіл Петух** падзяліўся досведам даследавання вады ў крыніцах і распавёў пра тое, як шмат гадоў ладзіць водныя экспедыцыі.

На семінары настаўнікі атрымалі не толькі шмат карысная інфармацыі, а яшчэ матэрыялы, неабходныя для даследаванняў. Некаторыя педагогі запланавалі першыя навукова-даследчыя экспедыцыя на вадаёмы рэгіёна ўжо на асенніх канікулах.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.10 | 24.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0500 | **2.0400** |
| Еўра | 2.2619 | **2.2689** |
| Злоты, 10 | 5.2649 | **5.3005** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1842 | **3.1985** |
| Грыўня, 100 | 8.2559 | **8.1637** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **16.10** | **23.10** |
| Еўра | 2.2450/2.2700 | **2.2500/2.2750** |
| Долар ЗША | 2.0400/2.0580 | **2.0300/2.0480** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **16.10** | **23.10** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,73 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,57 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 2,20 | **2,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,90 | **2,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 1,20 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,80 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **3,20** |
| Вінаград, 1 кг | 2,90 | **2,70** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,50 | **2,80** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **2,50** |
| Журавіны, 1 л | 4,00 | **4,00** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **1,20** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Хурма, 1 кг | 2,70 | **4,80** |
| Чарнасліў, 1 кг | 1,90 | **–** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,70 | **1,60** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# З гісторыі смяротнага пакарання ў Германіі

**Сёння Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе і СНД, дзе прымяняюць смяротнае пакаранне. Яго назначаюць за 12 катэгорый злачынстваў у мірны час і за дзве – у ваенны. Ва ўсёй Германіі смяротнае пакаранне адменена ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Аднак гісторыю мае багатую.**

### За забойства ўласнага дзіцяці маці тапілі

У сярэднявечнай Германіі прыгавораным да смяротнага пакарання традыцыйна адсякалі галаву. Часцей не сякерай, а мячом. Існавалі і іншыя віды смяротных пакаранняў. У 17 стагоддзі за выраб фальшывых грошай, падпал, вядзьмарства маглі спаліць на вогнішчы. За здраду партнёру чвартавалі. Для маці, якая забіла сваё дзіця, была асаблівая мера – патапленне.

**У 20 стагоддзі, ужо пры Гітлеру, увялі смяротнае пакаранне праз павешанне ў сакавіку 1933 года і гільяціну ў пачатку 1934.**

На гільяціне пакаралі **Марынуса ван дэр Любэ** – галандскага камуніста, якога падазравалі ў падпале рэйхстага ў 1933 годзе, а ў 1943 годзе – **Юліуса Фучыка** – чэхаславацкага журналіста, літаратурнага і тэатральнага крытыка.

Удзельнікаў няўдалай змовы супраць Гітлера 20 ліпеня 1944 года павесілі не на звычайных вяроўках, а на раяльных струнах, што ўзмацняла пакуты. У войску прымянялі расстрэл. Газавая камера – самы вядомы сродак масавага знішчэння – выкарыстоўвалі ў канцлагерах як для іншых народаў, так і для немцаў, якія былі супраць існуючага рэжыму.

### У ФРГ пакаранне адмянілі ў 1949, у ГДР – праз 38 гадоў

Усіх асуджаных на смерць нацысцкіх злачынцаў у Нюрнбергу павесілі. Прычым вайскоўцам Кейкелю, Ёдлю і Герынгу адмовілі ў замене павешання расстрэлам, чаго яны дабіваліся. Наступныя Нюрнбергскія працэсы вынеслі яшчэ некалькі смяротных прыгавораў, частку з якіх прывялі ў выкананне таксама праз павешанне.

Смяротнае пакаранне на тэрыторыі ФРГ і Заходняга Берліна адмянілі ў 1949 годзе. Хаця некаторыя з нюрнбергскіх пакаранняў выканалі ў 1951 годзе. Але гэта было правасуддзе ЗША, якое ажыццяўлялася на тэрыторыі Германіі. ФРГ настойвала на адмене смяротнага пакарання ва ўсёй Германіі.

**У выніку ў ГДР смяротнае пакаранне адмянілі ў 1987 годзе. Да 1966 года практыкавалі гільяціну, пасля замянілі яе расстрэлам.**

Намеснік упаўнаважанага ўрада ФРГ, які быў адказны за дакументы былой спецслужбы «Штазі» **Фалько Веркенцін** правёў расследаванне і высветліў, што ўсяго ў ГДР да смяротнага пакарання прыгаварылі 221 чалавека. А выканалі 164 прыгаворы.

**Месца, дзе выконваліся смяротныя прыгаворы, трымалі ў строгім сакрэце. Цяпер вядома, што на гільяціне каралі ў асноўным у Дрэздэне. Пазней месцам пакарання стала былая кватэра качагара Лейпцыгскай турмы.**

Апошняе смяротнае пакаранне было якраз у Лейпцыгу. Каралі выстралам у патыліцу без папярэджання. Трупы спальвалі ў крэматорыі. У пасведчанні пра смерць пазначалі выдуманыя месца і прычыну. Цяпер на месцы пакарання ў Лейпцыгу існуе музей і мемарыял.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК паводле dw.com і іншых крыніц.**




Фота з Вікіпедыі.

Падазраюць, што атрыманыя трыста рублёў – толькі частка ўзнагароджання.

# За хабар затрымалі намесніка начальніка філіяла чыгункі

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечне з доказам злачынства затрымалі намесніка начальніка аднаго з падраздзяленняў чыгуначнага транспарту.**

Супрацоўнікі аддзялення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Маладзечанскага РАУС сумесна з супрацоўнікамі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Мінаблвыканкама ўзялі фігуранта падчас атрымання хабару.

Дадзенае прадпрыемства ў Маладзечне спецыялізуецца на тэхнічным абслугоўванні і рамонце лакаматываў.

Падчас праверкі спецыялісты даведаліся, што намеснік начальніка прымаў узнагароджанні за станоўчае вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю. Сам кіраўнік спрыяў таму, каб работнікі былі вымушаныя звяртацца да яго для спрыяльнага вырашэння сітуацый.

Інфармацыя пацвердзілася. Падазраванага затрымалі з доказамі злачынства. Ён атрымліваў хабар у памеры трыста беларускіх рублёў. Паводле папярэдняй інфармацыі, гэта толькі частка незаконнай узнагароды.

Мужчына працаваў на прадпрыемстве на працягу трох гадоў. У дачыненні да 43-гадовага жыхара Мінска распачалі крымінальную справу па ч. 1 арт. 430 КК Рэспублікі Беларусь.

Санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да сямі гадоў са штрафам і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Расіянін хацеў перавезці праз мяжу антыкварыят і ювелірку

АШМЯНЫ

21 кастрычніка пры аглядзе аўтамабіля грамадзяніна Расіі, які ехаў з Літвы ў Беларусь, памежны нарад знайшоў каштоўнасці і антыкварыят.

Жыхар Ростова вырашыў не дэкларавань антыкварны пярсцёнак, кішэнны гадзіннік, будзільнік, а таксама сталовае начынне і выбраў зялёны калідор. Усе гэтыя прадметы былі схаваныя ў пальчатачнай скрыні, дзвярных нішах, паліцах кабіны і ў багажніку.

Паводле папярэдняй ацэнкі, лыжкі і будзільнік зробленыя з золата, а пярсцёнак інкруставаны дыяментам.

Знойдзеныя вырабы канфіскавалі і перадалі супрацоўнікам Гродзенскай рэгіянальнай мытні для правядзення экспертызы і ацэнкі іх кошту.

**Паводле Дзяржаўнага памежнага камітэта.**

## Сутыкнуліся матацыкл і BMW

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта карэспандэнту паведаміў старшы інспектар ДАІ Маладзечна **Сяргей Бартош**. Здарэнне адбылося 18 кастрычніка на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і вуліцы Таміліна.

Каля сямі вечара 21-гадовы жыхар Вілейшчыны на BMW ехаў па Вялікім Гасцінцы з боку вуліцы Галіцкага ў кірунку Мінска. Калі паварочваў налева на скрыжаванні, не саступіў дарогу матацыклісту.

– Апошні ў выніку ДТЗ атрымаў траўмы. Яго даставілі ў траўматалогію Маладзечанскай ЦРБ, – расказаў Сяргей Бартош.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Хлопцы размалявалі дамы з-за групы ў сацыяльных сетках

АШМЯНЫ

У верасні ў Ашмянскі РАУС звярнулася Ашмянская ЖКГ. Арганізацыя прасіла правесці праверку і прыцягнуць да адказнасці асоб, якія маюць дачыненне да факту пашкоджання сцен фасадаў жылых дамоў №№ 8, 13, 15 па вуліцы Крынічнай, №87 – па Чырвонаармейскай, №3 – па завулку Міцкевіча ў горадзе.

Сёлета ад канца ліпеня да жніўня двое маладых людзей нанеслі розныя надпісы аўтамабільнай фарбай на фасады жылых дамоў. Надпісы наносіліся выключна ў цёмны час сутак.

Змест іх быў з абрэвіятурай – назвы адной з мясцовай папулярнай у моладзевых колах групы ў сацыяльных сетках гумарыстычнай накіраванасці.

**У ходзе правядзення праверкі фігурантамі была выдаленая група з сацыяльных сетак.**

Матэрыяльныя страты склалі больш за 120 рублёў. Хлопцы пакрылі іх у поўным аб'ёме.

У цяперашні час разглядаецца пытанне аб прыцягненні маладых людзей да адміністрацыйнай адказнасці за наўмыснае пашкоджанне маёмасці. Фігурантам пагражае пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры да пяцідзесяці базавых велічынь – 1275 рублёў.

**Паводле osh.by.**

# Нам даслалі першы фотаздымак на акцыю «Не губляй ніводнага дня»

**Наша першая ўдзельніца – Святлана Андрушкойць з Маладзечна.**



«Цудоўная, захапляльная палітра восені ўсюды» – так падпісала фотаздымак Святлана. На здымку яна са сваім гадаванцам. Святлана любіць жыццё, сваіх блізкіх, усё прыгожае, а яшчэ падарожжы.

А мы нагадваем, што **«Рэгіянальная газета» запускае акцыю «Не губляй ніводнага дня».**

Дасылайце на нашу пошту **regionnews@rh.by** свае лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2019 год. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі радаснымі момантамі года.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

Акрамя таго, з дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары «РГ» на 2020 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, таксама атрымае падарунак.

Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма «Рэгіянальнай газеты», рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд, а аўтара ўзнагародзяць.

У далейшым гэтыя здымкі могуць быць выкарыстаны ў нашых публікацыях.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы да 31 кастрычніка. 1 лістапада мы размесцім на нашым сайце галасаванне. 15 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Не губляй ніводнага дня».

Некаторыя з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**Аддзел інфармацыі.**



# Спецыялісты па землеўпарадкаванні засцерагуць ад суседскіх спрэчак і штрафу

**У жыцці мы купляем шмат розных рэчаў. Чалавек ведае, што ён хоча набыць. Вывучае ўласцівасці тавараў, смакавыя якасці, аглядае набытак. І калі ўсё задавальняе, то купляе.**

А што рабіць, калі хочаш набыць, арандаваць, падарыць спецыфічны тавар – зямельны ўчастак. Гэта і асобны аб'ект здзелкі, і аб'ект, які ўваходзіць у склад капітальнага будынка.

Аднак пры заключэнні здзелак з зямельным участкам пакупнік часам не надае належнай увагі яго якасці, што можа прывесці да негатыўных наступстваў. Прычына – няведанне спажыўцом характарыстык зямельнага ўчастка, якія вызначаюць яго якасць.

А гэта, акрамя плошчы, канфігурацыі і памераў, адпаведнасць юрыдычнай мяжы зямельнага ўчастка яго фактычнай мяжы. Гэта значыць той, якую пакупнік убачыў на мясцовасці, як вынік актыўнай дзейнасці землекарыстальніка.

Здараецца, купляючы дом, грамадзяне ўвогуле не цікавяцца, як выглядае на мясцовасці зямельны ўчастак, дзе праходзіць мяжа з сумежнымі землекарыстальнікамі, якая канфігурацыя ўчастка.

А пасля пры ўсталяванні агароджы грамадзянін захоплівае зямлю суседа, што гаспадарчая пабудова перарэзаная мяжой. Або мяжа праходзіць вельмі блізка каля дома, і гэта нязручна.

Грамадзянін становіцца «закладнікам» сітуацыі і па сваім няведанні аказваецца правапарушальнікам. Так, часткі збудаванняў на чужой тэрыторыі неабходна зносіць.

**Даведачна:** У адпаведнасці з пунктам 3 артыкула 223 Грамадзянскага кодэкса пры самавольным будаўніцтве на самавольна занятым зямельным участку мясцовым выканаўчым і распарадчым органам прымаецца рашэнне аб вяртанні самавольна занятага зямельнага ўчастка, зносе самавольнай пабудовы і прывядзенні зямельнага ўчастка ў прыдатны стан.

Вынікі набыцця зямельнага ўчастка неналежнай якасці могуць быць і менш затратнымі, але не менш значнымі. Зносу можа падлягаць збудаваныя плот і шматгадовыя насаджэнні, якія ствараюць сумежным землекарыстальнікам перашкоду ў выкарыстанні свайго зямельнага ўчастка. І гэта далёка не ўвесь пералік парушэнняў.

Таму падчас здзелкі, прадмет якой – зямельны ўчастак або збудаванне на ім, неабходна праверыць якасць спецыфічнага віду тавару. Гэта праверка супадзення і адпаведнасці фактычнай мяжы зямельнага ўчастка яго юрыдычным межам і, у выпадку адхілення, прывядзенне яе ў адпаведнасць. Самастойная праверка землекарыстальнікам немагчымая.

**Даведачна:** Працы па аднаўленні мяжы зямельнага ўчастка выконваюцца ў выпадках, прадугледжаных заканадаўствам аб ахове і выкарыстанні зямель, у тым ліку пры вырашэнні зямельных спрэчак, на падставе судовых пастаноў або заяў грамадзян, індывідуальных прадпрымальнікаў і юрыдычных асоб, якія з'яўляюцца праваўладальнікамі ў дачыненні да зямельных участкаў, межы якіх аднаўляюцца. Аднаўленне фіксаванай мяжы зямельнага ўчастка заключаецца ў адшукванні на мясцовасці кропак паваароту геадэзічным спосабам фіксаванай мяжы зямельнага ўчастка і замацаванні, пры неабходнасці, адпаведных кропак новымі межавымі знакамі замест згубленых. Гэта робяць з выездам на мясцовасць у прысутнасці ўсіх зацікаўленых бакоў.

Спецыялісты па землеўпарадкаванні Маладзечанскага філіяла РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры» дапамогуць з аднаўленнем межаў вашага зямельнага ўчастка. Аддзелам выконваюцца працы ў Маладзечанскім, Вілейскім і Валожынскім раёнах.

Па словах начальніка аддзела землеўпарадкавання і інжынерных збудаванняў **Аляксея Валяр'янавіча Каракіна**, спецыялісты аддзела выкарыстоўваюць сучасныя gps-прыёмнікі, электронныя тахометры і лазерныя дальнамеры.

Для выканання работ трэба звярнуцца з пісьмовай заявай у Маладзечанскі філіял па адрасе: Маладзечна, Хмяльніцкага, 22 для заключэння дагавора падраду на аднаўленне мяжы зямельнага ўчастка.

Спецыялісты зробяць гэта не даўжэй за 15 рабочых дзён. Пры наяўнасці тэхнічнай магчымасці тэрмін можа быць скарочаны да 10 ці 5 працоўных дзён. Пры гэтым кошт работ павялічваецца на 25% і 50% адпаведна.

Падводзячы вынік, хочацца адзначыць, што пры правядзенні работ па аднаўленні межаў пры набыцці зямельнага ўчастка:

– эканоміцца грашовыя сродкі і час;

– захоўваюцца добразычлівыя адносіны паміж суседзямі;

– разгружаюцца судовыя органы і дасудовыя інстанцыі.

УНП 600199462

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае



**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77,** 8 (01592) **4-47-16** (з 1 лістапада 2019 г.) |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ЗАЗ «Таўрыя» ў добрым стане. Цана дагаворная. Машына знаходзіцца па тэл. (8-033) 3548646.

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Опель-Зафіра, 2000 г.в., аб'ём 1,8 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 8721624.*

• Пежо-405, 1992 г.в., бензін, мона 1,6, на ходу, 1000 рублёў, торг. Т. МТС (8-029) 7012233.

• Фольксваген-Гольф 3, 1,4 мона, 5-дзверны, па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Форд КА, 1999 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, вул. Цэнтральная, дом 6; 35,5 кв. м. Т. (8-0330 6690759.

• 3-пакаёвая кватэра у Смаргоні, вул. Заходняя, 9. Выдатны еўрарамонт, цёплая падлога, ахова. Т. (8-01592) 27041.

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры. Т. (8-029) 5692836.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Гараж у Насілаве, ГК-5Р. Яма, падвал на ўвесь гараж. Сухі. Стэлажы. Т. (8-033) 3633386.

• Дом у Асіпавічах Вілейскага раёна. Т. (8-01771) 28717.

• Дом у в. Засценкі Іжанскага сельсавета Вілейскага раёна. Т. 98-033) 3513656.*

### ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*

• У арэнду гандлёвае памяшканне ў двух ярусах плошчамі рознай велічыні, усяго 120 кв. м, у Астраўцы. Т. (8-029) 3278422.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаем дахавыя работы любой складанасці. Гарантыя. ІП Дзядкоў С.Л. УНП 692241524. Т.(8-029) 2737650.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Прыгатуем стол для любой нагоды. Даставім. Сервіруем. Т. (8-029) 6958985, (8-029) 6888985.

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніտораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козачкі 7 месяцаў. Нядорага. Т. (8-033)6684495.*

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-0176) 503195, (8-033) 6316635.

**Іншае**

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатная. Т. (8-029) 6106061.

• Буракі кармавыя, бульба дробная. Т. (8-033) 6698067.

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню жывой вагой.Т. (8-029) 2552321.*

**Антыкварыят**

• Манету царскую. Т. Вэлком (8-029) 6488117.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную. Т. (8-029) 7082011.*

### АДДАМ

• Шчанят (помесь) у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Аўташколе патрабуецца бухгалтар спрошчанай сістэмы падаткаабкладання. ТАА «Віраж АПЦ» УНП 690552287. Т. (8-029) 7630310.

ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады
Аддзел рэкламы: (8-0176) 53-78-04 (тэл./факс), (8-029) 676-84-20, 573-28-47
E-mail: reklama@rh.by



Рэгіянальная газета. Rh.by

*Магчыма, менавіта вас чакае*

КРУТАЯ ПРАЦА МАРКЕТОЛАГА

У БЕЛАРУСКАМОЎНЫМ ВЫДАННІ ПАВІЛЛЯ

ШТО НАМ ПАТРЭБНА АД ВАС:

актыўнасць і камунікабельнасць

майстэрства зарабляць

адказнасць

ШТО МЫ ПРАПАНУЕМ У АДКАЗ:

сацыяльны пакет

стабільны заробак з высокім працэнтам ад продажаў

офіс у зручным месцы і цёплы калектыў

ДАСЫЛАЙЦЕ РЭЗЮМЭ:

regionnews@rh.by

УНП 600288444



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
| --- | --- |
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

# Як працуюць мясцовыя дэпутаты і чым яны могуць дапамагчы

**Як працуюць дэпутаты Вілейскага раённага Савета дэпутатаў? У чым бачаць прызначэнне дэпутата ў раёне і дэпутата ўвогуле? Ці шматлікім нашым чытачам яны дапамаглі? І ў чым яны рэальна могуць дапамагчы?**

ВІЛЕЙКА

Мы пагутарылі з дэпутатам Вілейскага раённага Савета дэпутатаў **Андрэем Дударчыкам** і палітычным аглядальнікам **Паўлюком Быкоўскім**. А таксама праз сацсеткі запыталіся ў нашых чытачоў пра тое, ці дапамог ім калі-небудзь дэпутат.

### Дэпутат Андрэй Дударчык: не магу паспрыяць рамонту ўласнай вуліцы

У Вілейскім раённым Савеце дэпутат Андрэй Дударчык ужо чацвертае скліканне. Добра памятае сваю першую перадвыбарную кампанію:

– Падчас маіх першых выбараў альтэрнатыва была толькі на маім і яшчэ на адным участку. І я рэальна змагаўся са сваім сапернікам. І перамог. Давераныя асобы хадзілі ў народ. Гэта быў мой бацька, сябры. Яны хадзілі па вуліцах, дзе мяне памяталі з дзяцінства. Цяпер далучаюцца мае калегі. Але бацька, нягледзячы на сталы ўзрост, па-ранейшаму ў ініцыятыўнай групе. Перадвыбарная кампанія – самае прыемнае, што ёсць у дэпутацкай дзейнасці. Гэта як песня – спявай, калі голас маеш. Пытанне, ці зможаш усё выканаць.

Што ўяўляюць сабой такія паходы? Гэта расповед пра тое, што я магу, кажа Андрэй Дударчык. А таксама размова, у якой даведваешся, што хочуць людзі.

А людзі, па шматгадовых назіраннях дэпутата, хочуць зямнога. Сто з васьмідзесяці зваротаў датычацца ЖКГ: дарогі, дровы, агароджы:

– Вось самае простае: чалавек выйшаў з двара, а на дарозе – лужына. І людзі думаюць, што дэпутат ім дапаможа. Дэпутат пачынае дапамагаць. І часта гэта зацягваецца на тры скліканні.

– І тут разумееш, каб быў алігархам, то быў бы найлепшым дэпутатам. Трэба жанчыне машыну гравію, каб двор не падтапляўся, купіў КаМАЗ гравію – і падсыпаў агарод, – працягвае суразмоўца.

А на справе не ўсё так проста. Калі б гэта была дарога, праблему б рашылі, калі ж гэта прыватная тэрыторыя – не атрымліваецца.

Таму Дударчык і не разумее дэпутацкіх праграм. Як можа пісаць нейкія праграмы чалавек, у якога няма ні грошай, ні часу.

– Я ніколі не абяцаў выбаршчыкам, што нечага даб'юся, – дзеліцца дэпутат.

І прыводзіць прыклад. У Цынцавічах на Вілейшчыне ёсць дарога. Калі сухое надвор'е, то яна нядрэнная. Як толькі дождж – немагчыма праехаць. Чалавеку, які не ведае абставін, дарога падаецца добрай. Такой яна падаецца і мясцовым уладам. Пра гэта яны і пішуць у сваіх адказах на звароты выбаршчыкам.

– Як я магу паўплываць на сітуацыю? Падказваю людзям, каб напісалі яшчэ раз, калі будзе дажджлівае надвор'е.

Падказаць, куды звярнуцца, – гэта таксама задача дэпутата. Андрэй Дударчык прызнаецца, што часам падказвае выбаршчыкам, калі лепш патэлефанаваць на прамую лінію, каб, напрыклад, патрапіць да старшыні райвыканкама.

Ёсць запыты, якія пераходзяць з дэпутатам ад склікання да склікання. Сярод іх – рамонт вуліцы Лаўрыновіча, дзе жыве Андрэй Дударчык. Нядаўна там адрамантавалі дарожнае пакрыццё. Але ў планах значыцца рамонт вуліцы, а гэта значыць, і тратуара, які пакуль не зроблены.

Яшчэ адзін нявыкананы запыт – рамонт дома ў адным з мікрараёнаў у Вілейцы:

– На вуліцы – двухпавярховыя дамы на некалькі кватэр. За мае дэпутацкія скліканні адрамантавалі амаль усе дамы. А адзін – ну, ніяк!

І ўсё ж дэпутату Дударчыку не сорамна перад выбаршчыкамі. Хай няшмат, але я раблю, – кажа ён.

– Узяць хаця б аўтобусны прыпынак, які прасілі бацькі вучняў пятай школы. Так, атрымалася не адразу. Я звярнуўся ў ЖКГ у сярэдзіне года. Там адказалі, што ў сярэдзіне года такія рэчы не робяць. Параілі нагадаць, калі будуць закладваць бюджэт на наступны год. Я нагадаў. У выніку – ужо некалькі год на вуліцы стаіць гэты прыпынак. А трэба было па-чалавечы паразмаўляць з ЖКГ і не забыцца нагадаць у патрэбны момант.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Андрэй Дударчык.

### Паўлюк Быкоўскі: дэпутаты могуць паўплываць на бюджэт, але не робяць гэтага

Расказаць, што ўяўляе сабой праца раённых дэпутатаў і на якую дапамогу ад іх могуць разлічваць выбаршчыкі, мы папрасілі медыяэксперта, палітычнага аглядальніка **Паўлюка Быкоўскага**.

– Усе мясцовыя дэпутаты, акрамя старшыні Савета дэпутатаў, не атрымліваюць заробак за сваю працу. Некалькі разоў на год яны збіраюцца на сесію. Чым можа быць карысны дэпутат? Ён мае права галасаваць за прыняцце мясцовага бюджэту. І можа нават паўплываць на яго. Але гэта тэарэтычна. На практыцы ж яны толькі пагаджаюцца. І ўсё ж, калі дэпутат не захоча пагадзіцца з бюджэтам, ён можа гэта зрабіць. Праўда, такіх выпадкаў пакуль не было.

Раённыя дэпутаты могуць увесці мясцовыя падаткі. Напрыклад, турыстычны збор у курортнай зоне. Могуць знізіць мясцовыя падаткі.

Дэпутат вядзе прыём грамадзян. Па іх просьбе ён можа рабіць запыты ў розныя інстанцыі. Дзякуючы дэпутату выбаршчыкі могуць даведацца пра тое, што ім бы не сказалі. Калі звычайнаму грамадзяніну на запыт чыноўнікі адказваюць не заўсёды хутка і па сутнасці, то дэпутату адкажуць хутка і «без вады». Канешне, атрыманне інфармацыі не забяспечвае станоўчага вырашэння пытання. Але ж валоданне ёй усё ж дае магчымасць нешта зрабіць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота baj.by.

Эксперт Паўлюк Быкоўскі.



Інфаграфіка Аксаны ЯРАШОНАК.

Вынікі апытання, якое «РГ» правяла на сваіх старонках у сацсетках.

● ПАДЗЕЯ ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота hollywoodreporter.com.

# «Сіла будзе з табой вечна»

## Выйшаў фінальны трэйлер дзявятага эпізода «Зорных войнаў»

**Кампанія Disney выпусціла фінальны трэйлер фільма «Зорныя войны: Скайуокер. Усход».**

У трэйлеры галоўная гераіня восьмага і сёмага эпізодаў Рэй (Дэйзі Рыдлі) прабіраецца праз джунглі, пасля чаго змагаецца з Кайла Рэнам (Адам Драйвер). За кадрам гучыць голас імператара Палпаціна (Іан Макдэрмід), які кажа, што герояў чакае падзенне. У роліку таксама з'яўляецца прынцэса Лея ў выкананні Кэры Фішэр, якая памерла ў снежні 2016 года, і гучыць закадравы голас Люка Скайуокера (Марк Хэміл).

Дзявяты эпізод «Зорных войнаў», які здымае Джэй Джэй Абрамс, ужо б'е рэкорды за два месяца да прэм'еры ў кінатэатрах. Афіцыйныя распаўсюджвальнікі білетаў заявілі, што ў першыя 24 гадзіны прадалі больш білетаў, чым на іншыя эпізоды зорнай серыі фільмаў.

**Выхад новых «Зорных войнаў» – гэта заўсёды вялікая справа ў асяроддзі фанатаў.**

«Апошнія джэдаі» Раяна Джонсана падзялілі фанатаў, так што перад Джэй Джэй Абрамсам паўстала няпростая задача. Яго фільм павінны не толькі працягнуць гісторыю пасля восьмага эпізоду і вярнуць да франшызы фанатаў, але і завяршыць шматгадовую сагу Скайуокераў. Для гэтага Абрамс нават вырашыў вярнуць на экраны галоўнага злодзея «Зорных войнаў» імператара Палпаціна.

Чакаецца, што «Скайуокер. Усход» не будзе канцом франшызы. Кінакампанія плануе выпусціць у 2022 годзе яшчэ шэраг фільмаў. Аднак адзначана, што «Скайуокер. Усход» будзе канцом канкрэтнага апавядання – завяршэнне сагі Скайуокераў і кульмінацыя шматвяковага супрацьстаяння сітхаў і джэдаяў. Пасля гэтага ўся франшыза рушыць у новым кірунку з новымі героямі і зладзеямі. Але якім менавіта стане фінал, пакуль не раскрываецца, а ролікі толькі намякаюць на эпічнасць канцоўкі.

**У трэйлеры ёсць спасылкі на мінулыя фільмы зорнай франшызы, якія ў 1980-х здымаў Джордж Лукас.**

Напрыклад, спачатку гледачу паказваюць Эндар. Эндар упершыню фігураваў у «Вяртанні джэдая» ў 1984 годзе. У трэйлеры пазней ёсць дадатковыя падказкі, якія запэўняць, што глядач не памыліўся са здагадкай.

Фільм «Зорныя войны: Скайуокер. Усход» выйдзе ў пракат 19 снежня.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40 Х/ф «ОТПЕТЫЕ МОШЕННИЦЫ».**
**9.20, 18.15 Т/с «ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** Д/с «Большой скачок».
**11.30 Х/ф «НИЧЕГО ХОРОШЕГО В ОТЕЛЕ «ЭЛЬ РОЯЛЬ».**
**13.55** «Необычайные деревни».
**14.00, 20.00 Т/с «ЭЛИТА».**
**14.55 Т/с «АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10 Х/ф «ПРОШЛОГОДНЯЯ КАДРИЛЬ».**
**17.25, 23.25 Т/с «ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10 Х/ф «ШЕРЛОК ХОЛМС».**

**ВТОРНИК, 29 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 0.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40 Х/ф «ИЗ 13 В 30».**
**9.20, 18.30 Т/с «ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** Д/ф «ДИКАЯ ПРИРОДА РОССИИ».
**11.50 Х/ф «ШЕРЛОК ХОЛМС».**
**14.00, 20.00 Т/с «ЭЛИТА».**
**14.50 Т/с «АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10 Х/ф «ВОЙНА НЕВЕСТ».**
**17.40, 23.15 Т/с «ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10 Х/ф «ЕНИГМА».**

**СРЕДА, 30 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40 Х/ф «Я СРАЖАЮСЬ С ВЕЛИКАНАМИ».**
**9.25, 19.15 Т/с «ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.05** Д/ф.
**12.00 Х/ф «ЕНИГМА».**
**14.00 Т/с «ЭЛИТА».**
**14.50 Т/с «АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10 Х/ф «30 СВИДАНИЙ».**
**17.40, 23.20 Т/с «ИМПЕРИЯ».**
**18.30** «Законы привлекательности».
**20.10 Т/с «ЗЕМЛЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10 Х/ф «ЭКИПАЖ».**

**ЧЕТВЕРГ, 31 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40 Х/ф «СЕРДЦЕЕДКИ».**
**9.40, 19.00 Т/с «ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**10.30** «Законы привлекательности».
**11.40 Х/ф «ЭКИПАЖ».**
**14.05, 19.50 Т/с «ЗЕМЛЯ».**
**14.50 Т/с «АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15 Х/ф «НОЧНОЙ РЕЙС».**
**17.30, 23.00 Т/с «ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Готовь как шеф».
**18.45** «Фешн is my профешн».
**20.45** «Необычные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10 Х/ф «СЕЛФИ».**
**23.45** Д/ф «ФЕНОМЕН ЛЮБВИ».

**ПЯТНИЦА, 1 НОЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40 Х/ф «КАК ПРОГУЛЯТЬ ШКОЛУ С ПОЛЬЗОЙ».**
**10.00 Т/с «ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**11.00** «Готовь как шеф».
**11.15** «Необычные деревни».
**11.20 Х/ф «СЕЛФИ».**
**13.10, 20.00 Т/с «ЗЕМЛЯ».**
**14.50 Т/с «АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10 Х/ф «ВАШ РЕПЕТИТОР».**
**17.40, 1.00 Т/с «ИМПЕРИЯ».**
**18.30 Т/с «ЛИКВИДАЦИЯ».**
**20.45** «Необычайные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.30 Х/ф «МИССИЯ НЕВЫПОЛНИМА».**

**СУББОТА, 2 НОЯБРЯ**

**7.00, 14.55, 18.05, 21.15, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Том и Джерри».
**8.25** «Утрямдия».
**8.30 Х/ф «ШАРОВАЯ МОЛНИЯ».**
**10.45 Х/ф «БЛОНДИНКА В ЗАКОНЕ».**
**12.30 Х/ф «МИССИЯ НЕВЫПОЛНИМА».**
**15.00** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Волшебный меч.Спасение Камелота».
**16.25, 0.45 Т/с «ИМПЕРИЯ».**
**17.10** «Законы привлекательности».
**18.10** Концерт заслуженного артиста республики Беларусь Александра Солодухи.
**20.25 Т/с «СВИДАНИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Жестокие мужские игры». Криминальная драма «Скольжение».
**23.10 Х/ф «ПОГНАЛИ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 НОЯБРЯ**

**7.00, 13.55, 18.50, 21.05, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы.
**7.45 Х/ф «10 ПРИЧИН МОЕЙ НЕНАВИСТИ».**
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Готовь как шеф».
**9.45** «Законы привлекательности».
**10.40** «Вечерний квартал-95».
**11.50 Х/ф «ВО ВРЕМЯ ГРОЗЫ».**
**14.00** «Смотрим всей семьей». «Мэри Поппинс возвращается».
**16.10 Х/ф «ВЕНОМ».**
**18.05 Т/с «КАСЛ».**
**19.00 Х/ф «ЖИЗНЬ ПО ДЖЕЙН ОСТИН».**
**20.45** «Необычайные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10 Х/ф «СОБЛАЗН».**
**23.10 Х/ф «СЛЕЗЫ СОЛНЦА».**

## МКТВ

МКБ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 ОКТЯБРЯ**

**6.30 Х/ф «ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**8.25 Х/ф «ИМЯ».**
**10.20** Мая Радзіма.
**10.35, 14.35, 15.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00 Х/ф «МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40, 19.20** Будьте здоровы.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Сотворившая чудо. Театральная постановка А.Барткевича.

**ВТОРНИК, 29 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.50, 8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Мая Радзіма.
**8.25 Х/ф «ШЕФ».**
**9.50 Х/ф «РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**11.30 Х/ф «СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**13.05** Свет души.
**14.40 Х/ф «МОШЕННИКИ».**
**16.15 Х/ф «ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**17.35, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Мнения и факты.
**20.20 Х/ф «О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**

**СРЕДА, 30 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.50, 17.40, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Мнения и факты.
**8.20 Х/ф «ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**9.35** Песня на завтрак.
**10.35 Х/ф «БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**12.10 Х/ф «БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**13.50 Х/ф «ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**15.30, 17.50, 22.20** Мажорный лад.
**16.30** Сотворившая чудо. Театральная постановка А.Барткевича.
**19.20** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 31 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**9.10 Х/ф «МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**11.05 Х/ф «ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**12.40 Х/ф «ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.45 Х/ф «БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**16.30** Мнения и факты.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20 Х/ф «ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**

**ПЯТНИЦА, 1 НОЯБРЯ**

**6.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**10.00 Х/ф «МОШЕННИКИ».**
**11.35 Х/ф «СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**13.10 Х/ф «ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**14.30 Х/ф «БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**16.10, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Рядом со звездами.
**20.20 Х/ф «РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ».**

**СУББОТА, 2 НОЯБРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.20, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.20** Мнения и факты: Государственные закупки.
**9.40 Х/ф «КУХНЯ: ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**11.15 Х/ф «СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**13.00 Х/ф «УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**14.40 Х/ф «СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.20** Мнения и факты.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 НОЯБРЯ**

**6.30 Х/ф «АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**8.05 Х/ф «БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**9.45 Х/ф «БОЛЬШАЯ СВАДЬБА».**
**11.10 Х/ф «БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**12.55 Х/ф «ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**14.35 Х/ф «ДИКАЯ ШТУЧКА».**
**16.10 Х/ф «БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**17.45 Х/ф «ИДЕАЛЬ».**
**19.15, 22.10 Х/ф «МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**20.20 Х/ф «ИМЯ».**

## Беларусь 1

**6.35** Х/ф **«СЧАСТЬЕ ИЗ ОСКОЛКОВ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол! «.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Кулинарная дипломатия.

**13.15** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЧЕРТУ».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.05** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ НА КАНАРЫ».**

**19.45** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПЕГАСА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«АВТОШКОЛА».**

**7.50** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.00, 19.30** Телебарометр.

**9.05** «Зов крови». Социальное реалити-шоу.

**10.20** «Селапопелета». Трэвел-шоу.

**11.00** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.50** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн-шоу.

**12.45** Х/ф **«ИСКУССТВЕННЫЙ РАЗУМ».**

**15.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.40** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.05** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Третий лишний». Реалити-шоу.

**22.15** Х/ф **«ИГРОК».**

**0.10** «Когда мы дома». Скетчком.

## Беларусь 3

**7.30, 16.05, 20.15** Навіны культуры.

**7.50** «Зніклая экспедыцыя». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Тушаная рыба з агароднінай.

**10.55** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**11.35** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.25** «Залатое цяля». Мастацкі фільм [СТ].

**15.15** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Зінаіда Зубкова.

**16.25** «Аперацыя «Гаргона». Мастацкі фільм [СТ].

**19.35** «Фарбы памяці. Май Данцыг».

**20.00** «На вышыні». Паэтэса Кацярына Массэ.

**20.35** Гэты дзень.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Чужая радня». Мастацкі фільм.

**22.40** «Тэатр у дэталях». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Радзіва «Прудок».

**23.10** «Купала і Колас. Вы нас гадавалі». Канцэртная праграма Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ЗА ЧУЖИЕ ГРЕХИ».**

**11.40** «Видели видео?».

**14.35** Премьера. «Звезды «Русского радио».

**16.20** Премьера. «Звезды «Русского радио» Продолжение.

**17.00** Премьера. Гарик Мартиросян в новом музыкальном проекте «Щас спою!».

**18.15, 21.20** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН».**

**20.00** «Контуры».

**22.40** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.00** «Что? Где? Когда?». Осенняя серия игр.

**0.10** «Про любовь».

## СТВ

**6.00** «Пища богов».

**7.35, 20.35, 22.40** Документальный спецпроект.

**9.15** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** «Неизвестная история».

**12.40, 13.40, 16.40** Т/с **«БОМБА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.10** «Неделя спорта».

**23.30** Т/с **«ДЕЛО ГАСТРОНОМА №1».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.45, 16.15** Т/с **«ГАРДЕМАРИНЫ, ВПЕРЕД!».**

**17.10, 19.30** Т/с **«ПЕТР ПЕРВЫЙ. ЗАВЕЩАНИЕ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**22.55, 1.00** Т/с **«ЗАПИСКИ ЭКСПЕДИТОРА ТАЙНОЙ КАНЦЕЛЯРИИ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**7.25** «Тело человека».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** Большой репортаж.

**8.50** Родные люди.

**9.10** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** «Секрет на миллион». Стас Пьеха.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.35** «Звезды сошлись».

**21.00** Ты не поверишь!

**22.05** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**22.40** Премьера. «Россия рулит!».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ИСКУШЕНИЕ НАСЛЕДСТВОМ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сам себе режиссер».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** Большой праздничный бенефис Елены Степаненко «Свободная, красивая…».

**16.10** Х/ф **«ПЕРЕВЕРНИ СТРАНИЦУ».**

**18.00, 21.45** Х/ф **«КАТЬКИНО ПОЛЕ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 1.45** Авиатор. **13.00** Шерлок (Сезон 2): Скандал в Белгравии (Серия 1). **14.40** Шерлок (Сезон 2): Собаки Баскервиля (Серия 2). **16.25** Шерлок (Сезон 2): Рейхенбахский водопад (Серия 3). **18.10** Шерлок (Сезон 3): Пустой катафалк (Серия 1). **19.55** Шерлок (Сезон 3): Знак трёх (Серия 2). **21.35** Шерлок (Сезон 3): Его прощальный обет (Серия 3). **23.20** Мой парень – псих. **4.35** Что скрывает ложь.

### TV1000 ACTION

**7.10** Мама. **9.15** Ю-571. **11.25** Винчестер. Дом, который построили призраки. **13.10** Его собачье дело. **15.00** Форсаж. **17.00** Двойной форсаж. **19.00** Тройной форсаж: Токийский дрифт. **21.00** Форсаж 4. **23.05** Обитель теней. **1.10, 5.10** Химера. **3.15** Истерия.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.55** Выкрутасы. **10.00** Орёл и решка. **11.50** 9 рота. **14.30** Последнее испытание. **17.10** Восьмёрка. **18.45** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **20.45, 5.45** Как я стал русским. **22.35** Свадьба. **0.40** Питер FM. **2.15** Собибор. **4.15** Война полов.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45** «Новый день». **10.15** Х/ф **«БОЙФРЕНД ИЗ БУДУЩЕГО». 12.45** Х/ф **«ЗУБНАЯ ФЕЯ». 14.45** Х/ф **«МУШКЕТЁРЫ». 17.00** Х/ф **«МОЯ УЖАСНАЯ НЯНЯ». 19.00** Х/ф **«МОЯ УЖАСНАЯ НЯНЯ 2». 21.00** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЯ ГУЛЛИВЕРА». 22.45** «Охлобыстины». **23.45** «Мама Russia». **0.45** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ: МЕСТЬ». 2.30, 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 2». 12.00, 13.00** Т/с **«АДМИРАЛ». 14.00, 15.00** Т/с **«АГЕНТСТВО НЛС». 20.00, 21.00** Т/с **«ЗОЯ». 22.00, 23.00** Т/с **«БОГИНЯ ПРАЙМ-ТАЙМА». 4.00, 5.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 6.00, 7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.15** Х/ф **«СУПЕР БРИС». 2.00** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ». 3.15** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ». 5.00** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «. 7.05** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ». 9.05** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО». 10.45** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2». 12.20** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 3». 13.55** Х/ф **«ЭДДИ». 15.50** Х/ф **«ВАСАБИ». 17.40** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ». 19.45** Х/ф **«ГОРЬКО». 21.40** Х/ф **«ГОРЬКО! 2». 23.35** Х/ф **«БАРМЕН».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.25** Власть господина Миллера. **2.20, 3.05, 4.00** Крах. **4.45, 5.40, 6.30, 7.25, 8.20, 9.20, 10.25, 11.25, 12.25** Балабол 2. **13.30, 14.30, 15.30, 16.30** Небесный суд. Продолжение. **17.30, 18.25, 19.20, 20.15** Легенды о Круге. **21.10, 22.10, 23.05** Собиратель тел.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.15, 9.20, 10.40, 11.40, 12.15, 14.40, 15.45, 17.55, 19.40, 21.15, 23.35** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.25** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.15** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.45** Шоу «САРАНХЭ». **11.45** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **15.50** Х/ф **«АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС В БРИТАНИИ». 18.00** Х/ф **«СМУРФИКИ: ЗАТЕРЯННАЯ ДЕРЕВНЯ». 19.45** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.20** Х/ф **«ВИКИНГИ ПРОТИВ ПРИШЕЛЬЦЕВ». 23.40** Т/с **«МЕТОД ЛАВРОВОЙ». 1.30** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.00** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **2.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.30** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.00** Теннис. Итоговый турнир WTA. Шэньчжэнь. Полуфиналы. **10.00** Велотрек. Этап кубка мира. Минск. Утренняя сессия. **14.30** Хоккей. КХЛ. Салават Юлаев (Уфа) – Динамо-Минск. **16.55** Пит-стоп. **17.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Превью. **18.00** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Динамо (Брест) – Шахтер (Солигорск). **19.50** Гандбол. Лига чемпионов. Вардар (Македония) – БГК им.Мешкова (Беларусь). 2-й тайм. **20.30** Велотрек. Этап кубка мира. Минск. Вечерняя сессия. **22.15** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.00** Футбол. Чемпионат Португалии. Порту – Авеш. В перерыве Спорт-центр. **1.00** Итоги недели.

### EUROSPORT 1

**0.05, 5.30** Супербайк. Этап чемпионата мира. Катар. Первая гонка. **0.35, 6.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Катар. Вторая гонка. **1.00, 5.00** Автогонки. WTCR. Сузука. Обзор. **1.35, 16.15** Сноуборд. Кубок мира. Модена. Big Air. **2.35** Скачки. Breeders' Cup. **4.05, 7.30** Снукер. World Open. 1/2 финала. **6.30** Велоспорт. «Тур Парижа». **8.55, 21.55** Снукер. World Open. Финал. **12.00** Велоспорт. «Тур Ломбардии». **13.15** Олимпийские игры. «Живые легенды». **13.45** Олимпийские игры. Camps to champs. **14.15** Олимпийские игры. «Сила личности». **14.45** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **15.25** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **17.15** Лёгкая атлетика. Марафон. Нью-Йорк. **20.20** Велоспорт (трек). Кубок мира. Минск. Третий день.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Байки про байки. **7.45** Все включено. **8.00, 10.35, 13.15, 16.10, 19.30, 0.15, 1.55, 3.55** Итоговые новости. **8.15** Автолайф. **8.35** Советы юриста. **9.15, 17.15, 23.20** Обновление. **9.25, 2.35** Сити-тестер. Эксклюзив. **9.55** Вечер с Пикуленко. **10.55** Испытание на прочность. **11.25, 1.40** Легенды автопрома. **11.40, 19.50, 22.55, 3.00** Кастомайзинг по-русски. **12.10, 20.20, 23.30** Самообслуживание. **12.30, 20.40, 23.50, 4.10** Сделано в России. **12.55, 21.05, 0.30, 4.35** Школа внедорожного вождения. **13.30, 0.50** Тест на «Драйве». **13.55, 1.15** Комплектация. **14.25, 2.10** Сравнительный тест. **14.55, 21.20, 4.50** Своими руками. **15.25, 5.20** Поездка выходного дня. **15.55, 22.35, 5.45** Авто: вторые руки. **16.30, 17.30, 18.45** Металломщики. **18.15** Автодрайв 2019. **21.50** Советы для каждого. **22.20** Хорошо забытое.

### EXPLORE

**6.00** Битва за карпов. **6.20, 7.15, 8.05, 9.00, 9.50, 10.40** Речные чудовища. **11.35, 12.20, 13.05, 13.50, 14.40** Австралийские золотоискатели. **15.25, 16.15** Переделка старья. **17.00, 18.00** Танковый биатлон. **18.55, 19.40** Надсмотрщик. **20.30, 21.15, 22.00, 22.45, 23.30** Поисковая команда в Австралии. **0.15** Воздушная мега-доставка. **1.05, 1.55, 2.40, 3.30, 4.20, 5.05** Выжить на Аляске.

### HISTORY

**6.15, 16.50, 17.15, 17.45, 18.10** Родовые проклятья. **6.35, 11.20, 12.15** Загадки Египта. **7.25** Даты, вошедшие в историю. **8.00** Невероятные изобретения. **8.30** Американские принцессы на миллион долларов. **9.30, 10.25** Коварная Земля. **13.10, 14.05** Мифические существа. **15.05, 15.55** Загадочные убийства: царственные особы. **18.40** Война царственных родственников. **19.55** В поисках «Восточного экспресса». **20.45** Наполеон. **21.55** Разгадка тайны пирамид. **23.00** Титаник: истории из глубины. **23.50, 0.50** Частная жизнь. **1.40, 2.15** Тайны Парижа. **2.45, 3.40** Карты убийства. **4.30, 5.15** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 6.55, 7.50, 20.40** Огромные звери: последние из великанов. **8.45, 9.40, 10.35** Страна чудесных ископаемых – тайные сокровища природы. **11.30** Суперветеринар. **12.20, 12.50, 13.15, 13.50** Уличный ветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **15.55** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **16.50** Волшебная страна Оз. **17.55** Галапагосы. **18.50** Великая американская оттепель. **19.45** Вскрытие мамонта. **21.35** Загадки исчезнувших великанов. **22.30** Новый взгляд на тираннозавра. **23.25, 0.15, 1.05, 1.50, 2.40, 3.30, 4.20** Жуткие, настоящие и странные. **5.10** Природа в кадре. **5.30** Постыдные проблемы питомцев.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25** Панорама 360 Объект всемирного наследия. **7.15, 8.00** Короли шахт. **8.50, 1.30, 2.20** Авто – SOS. **9.35** Возрождение морского шелкового пути. **10.20** Враждебная планета. **11.10, 12.00** Загадки юрского периода. **12.45, 13.30** Остров бунтарей. **14.15** Международный аэропорт Дубай. **15.00** Сокрытая гробница Чингисхана. **15.50** Потерянная гробница Александра Великого. **16.35** Тайны Гроба Господня. **17.25, 20.35** Боб Баллард представляет: Призраки Чёрного моря. **18.15, 21.25** Спасти Титаник: сокровища с глубины. **19.00, 22.10, 3.05** В поисках Амелии. **23.50, 0.40** Осушить океан 2. **4.45** Чудеса инженерии. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.05** Спиннинг сегодня. **6.25, 23.35** Охота и рыбалка в. **6.55** Рыболовные путешествия. **7.50, 19.40, 2.15** На рыбалку вместе с папой. **8.20, 20.05** Научи меня рыбачить. **8.50, 15.40, 20.35, 3.15** Нахлыст. **9.20, 16.05, 21.05, 3.40** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **9.50, 21.35** Загадки толстолобика. **10.20, 22.05** В Индийском океане. **10.50, 17.40, 1.20, 5.05** Оружейный клуб. **11.20, 19.10, 1.50, 5.35** Планета рыбака. **11.50, 18.05, 0.05** Дикая кухня. **12.40, 18.55, 0.50** Дело вкуса. **12.55** Рецепты Древней Колхиды. **13.10** Горная охота в Болгарии. **13.35** Андрей Старков и его команда. **14.05** На зарубежных водоемах. **14.35** На рыбалку с охотой. **15.05, 2.45** По Якутии с Александром Борисовым. **16.35, 4.10** Нож-помощник. **16.55, 4.20** Охотничьи собаки. **17.20, 4.50** Особенности охоты на Руси. **22.35** Охотник-одиночка. **1.05** Мастер-класс.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.10, 22.15, 2.15** Большие идеи для маленького сада. **7.00, 11.05, 15.10, 19.15, 23.15, 3.15** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 15.30** Огород круглый год. **7.45, 11.50, 15.55, 20.00, 0.05, 3.55** Урожай на столе. **8.15, 12.20, 16.25, 20.25, 0.35, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 16.40, 20.45, 0.45, 4.35** Цветик-семицветик. **8.45, 12.50, 16.55, 21.00, 1.05, 4.50** Высший сорт. **9.00, 13.10, 17.10, 21.15, 1.15, 5.05** Альтернативный сад. **9.35, 13.40, 17.45, 21.45, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **11.20, 19.30, 23.35, 3.25** Цветы зимой. **12.35** Травовед.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Яніна і Эдуард Гражулі ў сваім доме.

# «Яму было 28, але ж і мне не 18»

## Сям'я з Астравеччыны адзначыла брыльянтавае вяселле

АСТРАВЕЦ

**Падворак Гражулёў – самы першы ў вёсцы Петрыкі, што на Астравеччыне. Сюды 60 год таму маладой жонкай прыйшла Яніна Лукша. Прыйшла з суседняй вёскі Гіры ў бацькоўскую хату свайго мужа – Эдуарда Гражуля.**

### Яніна Гражуль: не ўсе мелі шлюбныя сукенкі, а я мела

Вяселле гулялі восенню ў 1959 годзе. Адразу пасля акцябарскіх, дадае гаспадар. Гасцей было шмат, прыгадвае жонка. Вянчаліся маладыя ў герваціцкім касцёле. Першы дзень гулялі ў Гірах у маладой. На другі, па традыцыі, паехалі ў Петрыкі да маладога.

– Перавезлі мяне з шафай і з падушкамі, з усім пасагам, – кажа Яніна Гражуль. – У Петрыках гасцей было яшчэ больш. Гулялі, танцавалі пад акампанемент мясцовых музыкаў.

На маё пытанне пра шлюбны ўбор нявеста адказвае:

– Была пашыўшы белую шлюбную сукенку. Мне шыла яе братавая. Яна швачкай была. Пасля ў мяне сукенку пазычалі іншыя нявесты, як ішлі замуж. Не ўсе мелі свае сукенкі, а я мела. У жаніха быў касцюм. А пярсцёнкі жоўценькія набылі па 50 капеек. Ужо пагубляліся даўно.

### Кавалераў было шмат, але хацела замуж за высокага

Пазнаёміліся Яніна і Эдуард на танцах. Тады ўсюды танцы былі, кажа гаспадыня. Хадзілі і па Гірах, і па Віктасіне, і па Княстушках. Прыходзілі петрыкаўскія хлопцы і дзяўчаты з Гіраў. Танцавалі польку, вальс, факстрот і кракавяк.

Да вяселля сустракаліся доўга. Ён жаніўся ўжо стары, кажа жонка пра мужа.

– Але ж і мне было 25. Таксама не 18, – дадае.

Яніна Гражуль прызнаецца, што кавалераў у яе было шмат, у тым ліку і хлопец з родных Гіраў, што жыў па суседстве. Яна ж хацела, каб нарачоны быў высокі, а ўсе патэнцыйныя жаніхі былі малога росту. Таму адмаўляла, як прыходзілі ў сваты.

– А гэты быў высокі, валасы былі харошыя, кучаравыя, – кажа жонка, пазіраючы на мужа. – Прыйшоў у сваты са стрыечным братам з Петрыкаў. Яму не адмовіла. Тым больш, мой брат ажаніўся. Што ж я буду сядзець дома, яму перашкаджаць. Час прыйшоў і мне замуж.



Героі ў маладосці.

### Калгас, каровы, парсюкі…

Працавала маладая сям'я ў калгасе ў Гірах. Жалі сярпамі ячмень, рвалі, трапалі і мялі лён. Куды больш працавітыя былі, чым цяперашнія вяскоўцы, лічаць Гражулі.

Сваю гаспадарку таксама мелі. Упраўляцца са свойскай жывёлай Яніна ўмела яшчэ калі жыла з бацькамі. А прыйшла да мужа – тут таксама і каровы, і парсюкі. Кароў трымалі па дзве, парсюкоў шмат – і сабе, і на продаж.

Хлеба ў канцы 1950-х – пачатку 1960-х яшчэ не куплялі. Маладая гаспадыня, як і ўсе вясковыя кабеты, пякла яго сама.

Цяпер Эдуарду Гражулю – за дзевяноста, жонка – крыху маладзейшая. Муж – з сям'і доўгажыхароў. Яго маці пражыла больш за дзевяноста. Жывы старэйшы брат, якому 95. Ён пры сваім розуме, толькі ногі баляць. Адной сястры – 90, другой – амаль столькі ж.

Гражулі маюць трох дачок. Усе выйшлі замуж у Літве. Там і жывуць з сем'ямі. Часам прыязджаюць у Петрыкі да бацькоў. А з імі – сем унукаў і сем праўнукаў.

Гаспадар апошнім часам прыхварэў, ачуньвае ў родным доме пасля бальніцы, на двор амаль не выходзіць. А жвавая спадарыня Яніна правяла нас да брамы і на наша пажаданне доўга жыць, аптымістычна адказала:

– Будзем жыць, пакуль смерць не прыйдзе.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● КАЛЯНДАР

**25 КАСТРЫЧНІКА**

**1920.** Войскі генерала Станіслава Булак-Булаховіча перайшлі часовую польска-савецкую мяжу, пачаўшы ваенныя дзеянні супраць Чырвонай Арміі.

**2010.** У Пінску на заводзе «Пінскдрэў» адбыўся выбух і пажар. Загінула 14 чалавек. Найбуйнейшая прамысловая аварыя сучаснай Беларусі.

**26 КАСТРЫЧНІКА**

**2009.** Авіякатастрофа прыватнага чартарнага самалёта ВАе-125 пад Мінскам. Загінулі 5 чалавек – усе, хто быў на борце: тры чалавекі каманды і два пасажыры.

**27 КАСТРЫЧНІКА**

**1890.** У вёсцы Шутавічы на Смаргоншчыне нарадзіўся **Віктар Шутовіч**, беларускі каталіцкі святар, прыхільнік беларусізацыі касцёла. Вязень польскіх і савецкіх турмаў.

**1939.** Літоўскія войскі ўвайшлі ў Вільню, якую СССР перадаў Літве.

**1989.** У Беларусі знішчаная апошняя ракета СС-23, краіна стала бяз'ядзернай дзяржавай.

**28 КАСТРЫЧНІКА**

**1939.** У Беластоку пачаўся Народны Сход Заходняй Беларусі, які прыняў рашэнне пра далучэнне да БССР.

**29 КАСТРЫЧНІКА**

**1937.** У Мінску расстраляныя шматлікія дзеячы культуры, асветы і дзяржаўнага апарату Беларусі, усяго каля 100 чалавек.

**1938.** Нарадзіўся **Янка Саламевіч**, беларускі літаратуразнаўца, фалькларыст, бібліёграф, перакладчык.



**1969.** Першая перадача дадзеных паміж двума кампутарамі. Нараджэнне інтэрнэта.

**30 КАСТРЫЧНІКА**

**1883.** У вёсцы Лакцяны на Астравеччыне нарадзіўся **Янка Быліна (Ян Семашкевіч)**, беларускі паэт і драматург, рыма-каталіцкі святар.

**31 КАСТРЫЧНІКА**

**1905.** Курлоўскі расстрэл. Каля Віленскага вакзала ў Мінску па загадзе губернатара Паўла Курлова расстраляны мітынг супраць самадзяржаўя. Загінулі 100 чалавек.

**1961.** Цела Сталіна вынеслі з маўзалея Леніна.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Самі жыхары зладзілі фестываль у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**19 кастрычніка ў Маладзечне адбыўся другі гарадскі фэст «Прышчэпка». Яго арганізавалі і зладзілі самі жыхары.**




Арганізатары злева направа: Валерыя Рошчына, Валянціна Сідоркіна, Ганна Холад.

Цягам дня адначасова працавала некалькі пляцовак – майстар-класы і лекцыі ў адукацыйным цэнтры «Адкрытая прастора», гульні і актыўнасці ў дзіцячым цэнтры «Кроха», фізічныя актыўнасці ў фітнес-клубе «Амазонка», зона настольных гульняў у кафэ азіяцкай кухні «Фо-бо», падсумаванне вынікаў і канцэрт у «Рэд бары».

Цягам дня ўдзельнікі выбіралі актыўнасці, якія найбольш прываблівалі. Ахвотныя рабілі рэчы рукамі, распісвалі адзенне, малявалі, гулялі ў настольныя гульні, слухалі музыку.

Агулам у фэсце ўдзельнічала каля 300 чалавек. Арганізавалі свята **Ганна Холад** з рэспубліканскага моладзевага грамадскага аб'яднання «Нэкст стоп – нью лайф» разам з **Валянцінай Сідоркінай** і **Валерыяй Рошчынай** з цэнтра «Адкрытая прастора».

### Расказалі пра сябе

Да падрыхтоўкі мерапрыемства спрычыніліся розныя арганізацыі. Падобныя сустрэчы – зручная магчымасць распавесці пра арганізацыю на сваёй пляцоўцы. Педагог-арганізатар музкаледжа і каардынатар моладзевай арганізацыі World of youth **Алеся Каролік** разам з навучэнцамі арганізавалі пляцоўку па вырабе адметных малюнкаў:

– На фэсце ўразіла тое, што ўсе ахвотныя маглі прапанаваць свае пляцоўкі і далучыцца да фэсту. Так зрабілі і мы з нашай культурнаастветнай установай World of youth: пабачылі афішу, напісалі арганізатарам, атрымалі магчымасць паўдзельнічаць. Уразіла і тое, што паралельна праходзіла некалькі секцый і можна было выбраць, куды пайсці. На нашу пляцоўку прыйшло шмат жадаючых, нават ужо пачало цямнець, а дзеці ўсё падыходзілі. Адзінае, што было шкада, – на фінальным пункце ў «Рэд бары» засталося мала людзей. Хочацца, каб маладзечанцы прыходзілі часцей на канцэрты, асабліва бясплатныя.

Дырэктар дзіцячага цэнтра «Кроха» **Таццяна Васільева** таксама задаволеная ўдзелам у фэсце:

– Наш цэнтр за тое, каб бацькі свой вольны час праводзілі з карысцю разам з дзеткамі. Добра, калі ўдзел у фэсце павялічыць кола людзей, якія ведаюць пра працу нашай установы. Арганізатары да дробязяў прадумалі ўсе моманты. Мы ўклалі сілы і сродкі, не чакаючы хуткай аддачы. Але ўпэўненыя, што ўдзел не будзе дарэмным.

Фатограф **Андрэй Рагінскі** здымае розныя важныя падзеі горада. Фатаграфаў ён і «Прышчэпку». Вось як фатограф адгукаецца пра працу:

– Гэта фэст, які арганізавалі жыхары горада для жыхароў горада. А я заўсёды падтрымаю любую грамадскую ініцыятыву, накіраваную на тое, каб горад быў сучасны, цікавы. На гэтым фэсце яшчэ раз пераканаўся, што жыць можна цікава, але для гэтага трэба не сядзець і чакаць, а браць і самому рабіць сваё жыццё цікавым. Тым больш, у Маладзечне ёсць людзі, якія падтрымаюць любую ініцыятыву і дапамогуць яе рэалізаваць.

Прадстаўнік кафэ «Фо-бо» **Іван Доан** расказаў, чаму яны далучыліся да фэсту:

– Фестываль пакінуў вельмі добрыя ўражанні. Ветлівыя і добразычлівыя людзі, дзеці, усё здорава. Спадзяюся, не апошні раз удзельнічалі ў такім мерапрыемстве. Дзякуй арганізатарам, прыемна быць сярод гэтага ўсяго.

### Як арганізаваць фестываль

Сёлета «Прышчэпку» зладзілі другі раз. Арганізатары кажуць, што гэта працсей – ужо ёсць канцэпцыя, каманда. Пачынаць было складана, далучыцца да арганізатараў мог любы ахвотны. У гэтым ёсць цікавасць, але працаваць і давяраць людзям, з якімі дагэтуль не быў знаёмы, рызыкоўна. Напрыклад, адзін чалавек адмяніў выступленне за гадзіну да пачатку.

Цяпер такіх сітуацый не было. Было працсей і рыхтавацца, маючы аснову свята.



Майстар-клас.

> На свяце было шмат пляцовак – так кожны ўдзельнік станавіўся арганізатарам менавіта сваёй актыўнасці – майстар-класа, лекцыі або нечага яшчэ.

– Самым складаным было знайсці месца, – падзялілася Ганна Холад. – Пачыналі абмяркоўваць гэта з лета, але месца не знаходзілася. Таму вырашылі змяніць фармат і арганізаваць на розных пляцоўках. Работы было шмат, але кожны ў камандзе займаўся сваімі зонамі.

Ці лёгка заахвоціць да супрацы бізнес, расказаць, чаму варта рабіць тое, чаго раней не было?

– У горадзе ёсць сацыяльна-адказны бізнес. Усе пляцоўкі фестывалю – яркі таму прыклад. Удзел арганізацыі паказвае іх актыўнасць, адкрытасць і зацікаўленасць у гарадскіх мерапрыемствах.

Многія ўдзельнікі прыйшлі на свята з дзецьмі, самымі папулярнымі сталі сямейныя майстар-класы. Адна жанчына прыйшла на фэст у самым пачатку, ва ўсім удзельнічала. Праз некалькі гадзін сказала, што тут так здорава, што не хочацца сыходзіць.

Мы папрасілі арганізатараў падзяліцца, чаму яны арганізавалі свята:

– Мяне матывуюць людзі, якія хочуць нешта рабіць і робяць, і ўся наша каманда «Нэкст стоп – нью лайф», – адказала Ганна Холад.

– Вельмі натхняе, калі ў людзей гараць вочы, калі дзякуюць, кажуць, што ў Маладзечне становіцца цікавей жыць. Тады хочацца рухацца далей і здзяйсняць, – дзеліцца Валерыя Рошчына.

– З задумак – зрабіць новы выпуск «Крэатыўнай карты», уключыць у яе ўсе аб'екты, дадаць маршруты па горадзе. А ў канцы лістапада плануем правесці свята для ўсіх актывістаў горада і прадставіць усё тое, што паспелі зрабіць за гэты год, – распавяла Валянціна Сідоркіна.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# «Ты што, не мужык?», «Пафарбуй молат у ружовы колер»

## Як гэта – разбураць гендарныя стэрэатыпы. Пра пол і прафесію распавялі настаўнік пачатковых класаў і жанчына-каваль

МАЛАДЗЕЧНА

**Сустрэча «Разбураем гендарныя стэрэатыпы» адбылася 19 кастрычніка ў межах маладзечанскага гарадскога фэсту «Прышчэпка». Сустрэчу арганізавала Маладзечанская філія Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

На ёй выступілі настаўнік пачатковых класаў Чысцінскай школы **Юры Сянкевіч** і адзіная жанчына-каваль у Беларусі **Аксана Кірылюк** з Маладзечна. Сустрэчу вяла старшыня маладзечанскай філіі БАЖ **Зоя Хруцкая**.

Аксана атрымала адукацыю эканаміста, але на заводзе адпрацавала нядоўга – на пачатку 90-х эканоміка была ў стане зараджэння рынку. Яна адкрыла першую ў горадзе студыю бальных танцаў. Дасягнуўшы там мяжы, перадала справу іншым людзям. Займалася ландшафтным дызайнам, але падыход заказчыкаў да праекта супярэчыў яе задумам. У многіх проста не хапала грошай, каб давесці ідэю да канца. Аўтару было не па сабе – гэта як карціна, намаляваная толькі напалову. Жанчына атрымала марскія правы, каб хадзіць на Балтыцы пад ветразем. І мора, і неба – дарагія задавальненні. Аксана лічыць больш правільным накіроўваць сродкі на дапамогу бадзяжным жывёлам.

**Быў час, калі Аксана захапілася верхавой яздой. Пазней жанчына даведалася, наколькі такія заняткі траўматычныя для жывёл.**

– У пэўны момант разумееш, што жыццё адно. Хадзіць на працу, якую не любіш, проста няма сіл, а галоўнае – навошта. Калі казаць пра тое, наколькі складана жанчыне рэалізавацца, то ў мяне не было нават пытання, ці атрымаецца. Бярэш і робіш, таму што падабаецца. Жанчына можа абсалютна ўсё, асвоіць любую прафесію, калі дазваляюць фізічныя магчымасці і склад розуму.

Што тычыцца арганізацыі ўласнай справы, ніякіх перашкод не было. Калі ты цалкам разлічваеш на сябе, праблем не ўзнікае. Нельга зрабіць усё за адзін дзень. Пэўны час павінна заняць навучанне.

Што тычыцца коней, то трымаць чалавека для іх – траўмавальна. Да мяне трапляюць скалечаныя жывёлы, лячу іх. Каму не атрымліваецца знайсці дом, застаюцца ў мяне. Цяпер маю восем сабак, чацвёра коней, трое катоў. Стэрылізую жывёл пад гаспадара.

### Як да прафесіі паставіліся бацькі

**Юры**: Бацька меў сувязь з ваенкомам, хацеў, каб стаў афіцэрам, пайшоў у сувораўскае. Казаў, нашто мне жаночая прафесія, прамым тэкстам: «Ты што, не мужык?»

**Аксана**: Да гэтага я рэалізавала некалькі праектаў, якія прыносілі мне добрыя грошы. Пасля інстытута цалкам забяспечвала сябе, таму сама вырашала, як будаваць жыццё.

### Як адчулі, што гэта іх праца

**Юры**: Хацеў быць футбалістам або хакеістам. Калі падрос, падумаў, што, можа, атрымаецца стаць настаўнікам фізкультуры. Але неяк зламаў руку, і спартыўныя мары ўжо не маглі здзейсніцца. Паступіў у Лідскае педвучылішча.

**Аксана**: Калі вы ідзяце каля вітрыны і раптам бачыце сукенку або туфлі, то разумееце – маё! Заходзіце і бераце. Тут тое ж самае. Гэта як каханне з першага погляду, адгукаецца кожная клетачка. Так было са мной, калі ўпершыню патрапіла ў кузню і калі патрапіла ў стайню.

### Ці сутыкаліся з гендарнымі стэрэатыпамі

**Юры:** У вучылішчы на групу было двое хлопцаў. У школе з 90 работнікаў пяцёра мужчын. І сапраўды ёсць такое прадузятае меркаванне, што мужчына хутчэй стане дырэктарам. Калісьці і я меў дырэктарскія амбіцыі.

У беларускай сферы адукацыі 14% – мужчыны.



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Аксана Кірылюк і Юры Сянкевіч.

Некаторыя пытаюцца, што са мной не так, што я працую настаўнікам пачатковых класаў. 29 год таму я пачаў займацца гэтай справай, мне мая работа падабаецца. Жанчыны-калегі вельмі дакладныя, ім важныя ўсе дэталі. Напрыклад, у афармленні паставіш кропку або не. Я не вельмі ўважлівы ў гэтым, вазьму і пастаўлю, гэта ж дробязь, а за гэту кропку пасля так аддзяруць!

Працаваў настаўнікам пачатковых класаў, але марыў стаць дырэктарам. Прызначылі намеснікам па выхаваўчай рабоце на пасадзе адпрацаваў дзевяць гадоў. Марыў пра дырэктарства, але ў гэтым мяне збілі на ўзлёце.

**Аксана:** Да мяне прыязджаюць як да майстра, пра якога ведаюць. Па першым часе некаторыя касавурыліся, іншыя прапаноўвалі пафарбаваць пнеўматычны молат у ружовы колер. Стэрэатыпы крыху ёсць, але мне не перашкаджаюць.

### Што давала смеласць змяняць сферы?

**Аксана**: Калі разумееш, што нешта вычарпана ў тым выглядзе, у якім існуе, узнікае ўнутраная гатоўнасць да перамен. Спачатку трэба вывучыць усю тэарэтычную базу, уступіць у супольнасці і задаваць пытанні на форумах, пачаць спрабаваць. За паўгода да пачатку неабходна адкладаць грошы. Каб наступныя паўгода можна было вывучаць і пачынаць новую прафесію. І каб нават пры самым кепскім раскладзе пражыць.

**Тады можаш цалкам аддацца новай справе. За паўгода новая справа дазволіць з яе жыць – гэта спрацавала ў мяне чатыры разы.**

З'явяцца кліенты, таму што працу робіш добра, а добра робіш, таму што любіш і маеш тэарэтычную базу.

### Як змагацца са стэрэатыпамі

**Аксана: Наступнае пакаленне не будзе нават ведаць пра гендарныя стэрэатыпы.**

Трэба працаваць з моладдзю і дзецьмі ў садках. Калі дзецям паказваць жывёл, што яны сябры, якія ўсё адчуваюць, то ў дарослым жыцці такое дзіця ніколі не пакрыўдзіць іх.

Жанчыны ў краіне зарабляюць менш і пагаджаюцца на такія ўмовы ў адукацыі. Пасля вайны быць настаўнікам было прэстыжна, туды ішлі лепшыя, і зарплата падтрымлівала гэта. Калі няма зарплаты – людзям нецікава.

### Ці ёсць вучні

**Юры**: Ёсць два хлопцы, якія пайшлі вучыцца на настаўніка.

**Аксана**: Пішуць многія і жанчыны, і мужчыны. Але калі тлумачыш, як рэальна выглядае праца, што трэба, адвальваюцца ўсе.

### Ці баяцца жанчыны займаць пасады і адкрываць бізнес?

**Аксана**: Ёсць адна знаёмая, якая баялася. Яна б справілася, страхі надуманыя. Ёй была патрэбная падтрымка. Сказала – ідзі, я дапамагу. Мне нават не спатрэбілася дапамагаць.

Калі цябе вылучаюць на кіраванне, ты гэту сістэму разумееш, справішся, проста баішся. Да мяне часам накіроўваюць людзей, якія хацелі б штосьці змяніць. У жанчыны цяжкае становішча, яна не можа развесціся, таму што няма грошай, а дзяцей карміць трэба.

**У такіх выпадках можна дапамагчы чалавеку манетызаваць захапленне.**

Манетызаваць так, каб з гэтага жыць. І гэта рэальна для кожнай жанчыны, кожнай сферы, кожнага захаплення, калі ў яе выспеў унутраны стан перамен. Гэта не пра тыя сітуацыі, калі кажуць «стварыце мне арганізацыю, я буду там дырэктарам».

### Ці існуе жаночае шчасце і чым адрозніваецца ад мужчынскага

**Аксана**: Няма ні жаночага, ні мужчынскага шчасця. Ёсць шчасце чалавека, які самарэалізаваўся, іншага проста няма.

Калі ты прачынаешся і табе хочацца, каб дзень пачаўся, ты шчаслівы – табе можа быць няважна, ці ёсць у цябе сям'я. У кожнага свае крытэрыі шчасця.

**Юры: У мяне няма стэрэатыпа, што жанчына павінна стаяць ля пліты. Кожны мусіць рабіць тое, што робіць яго шчаслівым.**

### Прафесійная мара

**Аксана**: Жаданне рабіць цікавыя рэчы, каб было цікава жыць. Калі ўкладаеш душу ў рэч, яна пачынае жыць сваім жыццём.

**Юры**: Мяне цалкам задавальняе тое, чым я займаюся. Калі былыя вучні ў дарослым жыцці вітаюцца з табой, падтрымліваюць сувязь – значыць, усё было правільна.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Удзельнікі сустрэчы разам з мішкам Смокі.

# Пра што расказала рэйнджар з Аляскі

МАЛАДЗЕЧНА

**Як ратавацца, калі сустрэў грызлі, які мядзведзь любіць чарніцы і як сімвалам лясной службы ЗША стаў мішка Смокі? Пра гэта распавяла маладзечанскім школьнікам рэйнджар з Аляскі.**

Сустрэча з дырэктарам Цэнтра даследаванняў Паўднёва-Усходняй Аляскі лясной службы ЗША **Лэслі Свада** адбылася 18 кастрычніка ў бібліятэцы «Верасок».

### Як стала рэйнджарам

Лэслі вырасла і закончыла ўніверсітэт у Каліфорніі, падарожнічала па Еўропе. Але аднойчы паехала ў іншы канец краіны, Кетчыкан у Алясцы, і засталася. Там адразу палюбіла найвялікшы лес ЗША – Тангас. Яна пастаянна пашырала кампетэнцыі, удзельнічала ў разнастайных праграмах і сама была іх ініцыятарам. Свада выкарыстоўвае любыя магчымасці, каб данесці веліччнасць прыроды да грамадскасці.

Яе працу прызналі на нацыянальным узроўні, таму рэйнджар атрымала ўзнагароду Gifford Pinchot Excellence Award, якую штогод прысуджаюць аднаму работніку лясной службы ЗША ў краіне. І кіруе арганізацыяй, якая даглядае лес у Алясцы плошчай амаль 70 тысяч квадратных кіламетраў – гэта як 30 Налібоцкіх пушчаў.

Пазнавальную прэзентацыю рэйнджар правяла для вучняў маладзечанскіх гімназіі №6 і гімназіі-каледжа мастацтваў. Выступоўца адзначыла актыўнасць школьнікаў – падчас імпрэзы яны задавалі шмат пытанняў і выконвалі заданні Свада.

### «Беражыце лес» цвіком да дрэва

Перад пачаткам сустрэчы Свада адказала на пытанні журналістаў. «Рэгіянальная газета» пацікавілася, што пра Беларусь распавядае яна вечарамі, калі звязваецца з блізкімі ў Амерыцы. Адказала, што яе ўразіла праца па ахове прыроды, якую вядуць беларускія лясныя гаспадаркі.

А вось дэкарацыі і скульптуры з прыроднага матэрыялу, размешчаныя ў лясах, вельмі здзівілі. Рэйнджар патлумачыла, што не бачыла такога на сваёй Радзіме. Адна справа, калі стаіць дом лесніка. А вось шыльда «Беражыце лес», прыбітая цвіком да дрэва, выклікала ў госці непаразуменне. Усё ж, на яе думку, варта пазбягаць лішняга ўмяшання чалавека ў лес.

### Як вучаць маладых рэйнджараў

Лясная служба ЗША мае праграму навучання для дзяцей розных узроўняў. Для адукацыі распрацоўваюць яскравыя дапаможнікі. Малодшых школьнікаў вучаць, што за расліны растуць у лесе, для чаго яны і якія з іх атрутныя. Вывучаюць, якія жывёлы жывуць у лясах і як сябе паводзяць. Вучаць арыентавацца ў лесе як з дапамогай спецыяльных прылад, так і без іх. Абмяркоўваюць, як паводзіць сябе ў розных сітуацыях, напрыклад, калі сустрэнеш грызлі.

Юныя рэйнджары вучацца лавіць рыбу, а таксама ведаюць, якую лавіць нельга. Стронгу, як і ў беларускай Астравеччыне, лавіць забаронена – каб не скарачалася папуляцыя. Гэту рыбу лічаць каралём лесу.

Выступоўца распавяла пра тое, што ў Тангасе існуе некалькі відаў мядзведзяў, і рэйнджары мусяць ведаць асаблівасці звычак і паводзінаў кожнага. Напрыклад, чорны мядзведзь вельмі любіць чарніцы. Калі дзеці блізка знаёмяцца з прыродай, часта бываюць у лесе, ведаюць пра яго жыхароў, то будуць берагчы гэта багацце цягам жыцця.

Школьнікі пыталіся, ці складана быць рэйнджарам, ці здараліся з выступоўцам небяспечныя выпадкі. Свада адказала, што такіх сітуацый было вельмі шмат, даводзілася нават сутыкацца з мядзведзем. Каб выжыць, неабходна добра ведаць лес і паводкі яго насельнікаў. Але зброю ў лесе яна не выкарыстоўвала ні разу.




Фота facebook.com/usembassy.minsk.

Лэслі Свада.

Лэслі вельмі любіць не толькі лясных жывёл. У яе доме жывуць тры вялікія каты і адзін сабака, якія выдатна сябруюць між сабой.

### «Прыцягваюць гульнёй»

Напрыканцы мерапрыемства ў залу прыйшоў самы знакаміты сімвал лясной службы ЗША – мішка Смокі. Рэйнджар распавяла гісторыю гэтага сімвала, які даносіць пасыл «Толькі ты можаш папярэдзіць прыродныя пажары».

Адно маленькае чорнае медзведзяня знайшлі падчас пажару ў 1950 годзе ў Лінкальнскім нацыянальным лесе. Мішка ўскарабкаўся на дрэва, але яго лапы абгарэлі. Пасля таго, як патушылі пажар, выратавалі мішку. Яго гісторыя стала неверагодна папулярнай. Ён жыў 26 год у Нацыянальным заапарку ў Вашынгтоне, пасля смерці пахавалі ў Нью-Мехіка ў месцы, якое стала Гістарычным паркам мядзведзя Смокі. Смокі стаў сімвалам папярэджання пажараў у лясах.

На імпрэзе прысутнічалі і прадстаўнікі Маладзечанскага лягаса. Галоўны ляснічы **Андрэй Шыбека** пракаментаваў сустрэчу:

– Мы таксама працуем з моладдзю, але цікава, што ў іх ухіл ідзе на гульнявыя формы працы. Відаць, што сярод юных рэйнджараў вельмі актыўныя хлопчыкі і дзяўчынкі, і іх прыцягваюць гульнёй.

### Лясная служба ЗША дала шэраг сустрэч

Лэслі Свада прыехала ў Беларусь разам з калегай **Мітч Робертс**. Прадстаўнікі лясной службы ЗША правялі шэраг сустрэч ад 9 да 19 кастрычніка. Акрамя Маладзечна, рэйнджары наведалі Мінск, Магілёў, нацыянальны ландшафтны заказнік «Налібоцкі» і Бярэзінскі біясферны запаведнік.

Мэтай візіту стала знаёмства з амерыканскім досведам аховы навакольнага асяроддзя і папярэджання лясных пажараў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Спаборніцтвы па акрабатыцы, якія правялі пасля свята.



Мікалай Баеў разам з ветэранамі спартыўнай школы спявае на сцэне.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

# Вілейская школа алімпійскага рэзерву адсвяткавала 60-годдзе

**У пятніцу, 18 кастрычніка, у Вілейцы прайшоў святочны канцэрт да 60-годдзя вілейскай спартыўнай школы.**

На мерапрыемстве прысутнічалі выхаванцы школы і трэнеры. Са святам таксама віншавалі былых вучняў. Райвыканкам падарыў сертыфікат на дзве тысячы рублёў, а аблвыканкам павіншаваў больш значнай сумай у 20 тысяч рублёў і ўручыў сертыфікат дырэктару Вілейскай СДзЮШАР **Сяргею Гатауліну**.

Для выхаванцаў і трэнераў арганізавалі канцэрт, на якім выступілі спартсмены, ансамбль «Суквецце» і выхаванцы студыі «Экспромт». А ветэраны СДзЮШАР на сцэне канцэртнай залы спявалі песні.

Сярод прысутных быў **Пётр Зайцаў, Мікалай Баёў, Сяргей Мікуліч, Яўген Дрэер**. Пётр Зайцаў – першы трэнер майстроў спорту міжнароднага класа па скачках на батуце – **Таццяны Мамай**, чэмпіёнкі Еўропы ў сінхронных скачках сярод юніёраў 1972 года, і Яўгена Дрэера, які ў 1986 годзе стаў бронзавым прызёрам IX Спартакіяды народаў СССР. Зайцаў таксама першы трэнер майстра спорту міжнароднага класа **Івана Літвіновіча**. Маці Літвіновіча **Таццяна Аляксандраўна** працуе трэнерам па спартыўнай акрабатыцы ў Вілейцы.

Бацькі выпускнікоў школы **Аляксандра Барсаня** і **Дзмітрыя Шамовіча** падзякавалі вілейскай спартыўнай школе. Іх дзеці звязалі сваё жыццё са спортам пасля заканчэння СДзЮШАР.

Спартыўная школа адкрылася ў 1959 годзе. Спачатку яна спецыялізавалася па лёгкай атлетыцы, у 1960 годзе адкрылі аддзяленне акрабатыкі, у 1968 годзе – аддзяленне скачкоў на батуце, а ў 1980 – аддзяленне баскетбола і ў 2007 годзе адкрылі аддзяленне плавання.

Ля вытокаў стаяў першы дырэктар **Віктар Чакалаў**.

На наступны дзень, у суботу, тут завяршыліся спаборніцтвы па акрабатыцы і скачках на дарожцы, якія пачаліся напярэдадні.

**Настасся УТКІНА.**

# «А чаму спіна худая?» Бікіністка з Маладзечна распавядае пра рэжым і чаму дзяўчатам трэба хадзіць у залу

**Кацярына Чыліевіч пачала займацца бодзібілдынгам два гады таму. Яна распавядае, што ўпершыню сутыкнулася з фізічнымі практыкаваннямі ў 2012 годзе, калі гартала стужку навін у сацыяльнай сетцы і наткнулася на фотаздымак адной бікіністкі. Калі ўбачыла той здымак, зразумела, што хоча такую ж фігуру.**


Кацярына Чыліевіч.

Фота забяспечанае Кацярынай ЧЫЛІЕВІЧ.

– Усё жыццё дзяўчаты стараюцца прывесці сябе ў парадак, трымаюць у форме і ёсць вечная праблема схуднець. У мяне гэтай праблемы ніколі не было.

### Не проста схуднець, але развівацца

Дзяўчына прызнаецца, што самастойна ў яе не атрымалася быць у той форме, якую хоча. Яна рабіла практыкаванні, але ніякага істотнага выніку не з'явілася. У 2017 годзе Кацярына пайшла ў трэнажорную залу і знайшла трэнера.

Яна пачала займацца ў Мінску, дзе на той момант жыла. Кацярына часта бывае ў Маладзечне, але два гады таму не змагла тут знайсці трэнера, які яе цалкам бы задаволіў.

– Я арыентавалася на тое, як выглядае трэнер. Калі ён не можа ўлезці ў дзверы, то што ён можа зрабіць са мной, калі з сабой нічога не зрабіў.

Кацярына ніколі раней не займалася спортам, а зусім наадварот. Яна скончыла музычную школу, займалася харавымі спевамі. Паводле яе слоў, менавіта гэта і навучыла правільна паводзіць сябе на сцэне, што трэба падчас выступленняў на спаборніцтвах па бодзібілдынгу.

Кацярына прыйшла ў спартыўную залу з мэтай стаць больш зграбнай і каб нарасціць мышцы. Яна доўга прыглядалася да трэнераў, а ў выніку з ёй стала займацца **Ірына Гушчына**, якая займала прызавыя месцы ў Беларусі, была чэмпіёнкай Расіі.

– Трэнер сказала, што дзяўчаты прыходзяць толькі каб пахудзець, нікога не цікавіць развіццё. А мне, наадварот, хацелася развівацца.

Гушчына прыглядалася да Кацярыны на працягу года. Праз год узяла яе паглядзець на спаборніцтвы. Пасля іх Чыліевіч сумесна з трэнерам прыняла рашэнне, што ёй варта таксама паспрабаваць свае сілы. Падрыхтоўка пачалася мінулай восенню і завяршылася праз паўгода. Як кажа Кацярына, з таго моманту заняткі сталі сапраўды сур'ёзнымі: змяніліся трэніроўкі, харчаванне і тэмп.

### Намінацыі ў бодзібілдынгу

Намінацыя «Фітнес-бікіні», у якой выступае Кацярына, з'явілася ў бодзібілдынгу ў 2010 годзе.

– Фітнес-бікіні – гэта Х-падобны сілуэт: шырокія плечы і вузкая талія. Мяне хочуць схіліць пайсці ў бодзіфітнес. Там трэба быць з больш магутнымі мышцамі, але я пакуль не гатовая.

> Бодзібілдынг – працэс нарошчвання і развіцця мускулатуры шляхам прыёму вялікай колькасці ежы, высокаэнергетычнага спецыяльнага харчавання, часам фармакалагічных прэпаратаў з наведваннем (або без) трэнажорнай залы для выканання фізічных практыкаванняў.

У жанчын ёсць тры катэгорыі: бодзіфітнес, фітнес і бікіні. Усе яны дзеляцца на роставыя катэгорыі. На спаборніцтвах па эгідай міжнароднай федэрацыі бодзібілдынгу і фітнесу колькасць роставых катэгорый большая.

### Як выглядаюць спаборніцтвы па бодзібілдынгу

Апошнія спаборніцтвы, на якіх была Кацярына, прайшлі ў Магілёве. З раніцы праходзіць рэгістрацыя, пасля спартсмены пераапранаюцца і выходзяць на сцэну. Спартсменаў падзяляюць не толькі па намінацыях, але і па росце. На магілёўскіх спаборніцтвах былі чатыры растоўкі.

– За сцэнай бегае дзяўчынка і распавядае, хто трапіў у так званы кол-аўт. Суддзі перадаюць запіскі галоўнаму суддзі. Ён апрацоўвае дадзеныя, лічыць балы і выклікае ў выніку шасцёрку.

Шасцёрка спартсменак – гэта тыя дзяўчаты, якія занялі прызавыя месцы. У бодзібілдынгу ёсць паняцце абсалютнага пераможцы.

– З кожнай растоўкі выходзяць спартсмены, якія занялі першыя месцы, і з іх выбіраюць абсалютнага пераможцу.

Кацярына распавядае, што ўсе цікавяцца, навошта патрэбны грым. Па яе словах, ён трэба для таго, каб рэльеф быў бачны пад сафітамі. Журы ацэньвае прапорцыі і знешні выгляд спартсменаў. Суддзяў павінна быць абавязкова няцотная колькасць, каб падчас падліку галасоў не было спрэчных момантаў.

### Бацькі падтрымліваюць, а работу прыйшлося змяніць

З работай бодзібілдынг сумяшчаць цяжка. Кацярына дзеліцца, што ў ідэале спартсмену трэба працаваць у зале, есці і адсыпацца.

– Так не атрымліваецца. Я нават работу змяніла.

Кацярына ўспамінае, што на мінулай рабоце ўсе ведалі пра яе захапленні, але нікому не было цікава. Кажа, што ўсіх раздражняла, што яна шмат есць.

Новы калектыў зацікавіўся бодзібілдынгам. Кацярына распавядае, што калегі пытаюцца, што лепей есці, а чаго не варта. Спартсменка адзначае, што дома схуднець можна, нават без спартзалы, трэба проста ўзяцца за сваё харчаванне.

– Многія цікавяцца, а як на рабоце без салодкага. Салодкае можна замяніць. Напрыклад, ты з'ясі шакаладку і праз паўгадзіны зноў хочаш есці. Гэту шакаладку замяняю дзвюма порцыямі кашы. Прыкол у тым, што арганізм можа сам здабываць вугляводы з бялку, калі яму моцна трэба. Гэта псіхалагічны момант, сябе трэба проста перамагчы.

Пасля працоўнага дня ў Чыліевіч кожны вечар заняты, а на асабістае жыццё застаецца мала часу. Падчас міжсезоння вольнага часу з'яўляецца больш.

Бацькі таксама падтрымліваюць Кацярыну. Маме і тату спадабаўся від спорту, якім захапілася іх дачка.

– Неяк прыязджаю, а мама мяне просіць паказаць, як я накачалася. Я і так стану, потым па-іншаму, а яна: «А чаго спіна худая?». Тады зразумела, што мама ў тэме.

> **Родны брат Кацярыны таксама загарэўся, але ў яго з-за работы не атрымліваецца надаваць трэніроўкам дастаткова часу. Дзяўчына ўсё роўна рада, што ён пачаў хадзіць у трэнажорную залу.**

За два гады Кацярына не толькі падкачалася і змяніла рацыён, але заўважыла яшчэ адзін плюс. Яна прызнаецца, што раней стабільна хварэла раз на паўгода. А за гэтыя два гады, што пачала займацца, яна ні разу не хадзіла на бальнічны.

Спартсменка кажа, што негатыву таксама хапае. Пераважна яна сутыкаецца з пунктам гледжання, што дзяўчатам качацца шкодна. Кацярына кажа, што гэта няправільна – якасна есці і хадзіць у спартыўную залу нашмат больш карысна, чым піць і курыць. З негатыўнымі каментамі яна сустракаецца і не толькі ў трэнажорнай зале.

– Была летам на пляжы, міма мяне праходзіла кампанія: дзяўчаты ў целе, а хлопцы худыя. І яны выказаліся: «Фу, адны косці!». Я і падумала, што добры камплімент, бо было міжсезонне, калі можна папаўнець.

### Харчаванне

– На сняданак ем кашу са смажанымі яйкамі. Прыходжу на работу і праз гадзіну зноў ем кашу, але ўжо з курыцай. Можна перакусіць кавай і яблыкам. У чацверты прыём ежы дадаю гародніну, арэшкі. Морква – гэта выдатная рэч. Увечары ем яйкі, мяса, гародніну.

### Трэніроўкі

– У тыдзень у мяне чатыры сілавыя трэніроўкі і два-тры дні надаю кардыё. У панядзелак, аўторак, чацвер і суботу хаджу ў залу. У сераду, пятніцу і нядзелю кручу педалі дома, у мяне ёсць велатрэнажор.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Прадукт харчавання, які атрымліваецца з кіслага малака пры аддзяленні ад яго сыроваткі пасля адтоплівання.
3. Чалавек або жывёліна незвычайна вялікага росту; волат, велікан.
5. Пагадовы запіс гістарычных падзей у старажытныя часы; кніга з такімі запісамі.
7. Распазнавальны знак дзяржавы, горада, дваранскага роду.
9. Дарога, якая злучае важныя аб'екты, населеныя пункты.
12. Кіслы фрукт.
13. Каўчук, гума.
15. Вузкая палоска, лінія.
18. Арганізм, які развіваецца звычайна ў нерухомым становішчы, атрымлівае пажыўныя неарганічныя рэчывы з глебы і паветра і ператварае іх у арганічныя.
19. Мястэчка ў Маладзечанскім раёне на рацэ Бярэзіна, якім у 19 стагоддзі валодалі Тышкевічы.
20. Частка прадмета, на якой замацоўваюцца астатнія яго часткі.
23. Напрамак, шлях, па якім ідзе развіццё.
25. Тое, што і адчыніць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Кароткі адказ, заўвага аднаго субяседніка на словы другога.
4. Аэрадром на трасе паветранай лініі, абсталяваны ўсім неабходным для рэгулярных палётаў транспартнай авіяцыі.
6. Чалавек моцнага складу і вялікай фізічнай сілы.
7. Паслядоўны рад музычных гукаў, які павышаецца або паніжаецца ў межах адной ці некалькіх актаў.
8. Еўрапейская краіна, лідар па вытворчасці шакаладу.
10. Нездаровы стан арганізма, які ўзнікае ў выніку дзеяння на яго ядаў і ядавітых рэчываў (таксінаў).
11. Дванаццаць аднолькавых прадметаў; камплект з дванаццаці аднолькавых прадметаў.
12. Павелічальнае дваякавыгнутае шкло ў аправе.
14. Наталля Арсеннева: «Лес вітаў нас нячутнымі словамі, Нам смяялася неба празрыстае, Над каронамі соснаў хваёвымі … таялі лёгкія, чыстыя!»
16. Моцны холад, мароз.
17. Гэты від спорту стаў алімпійскім ад 1896 года. А англійскія рыцары Сярэднявечча ўмелі рабіць гэта ў брані.
21. Вуснае выкладанне вучэбнага прадмета выкладчыкам у вышэйшай навучальнай установе.
22. Тонка ссуканая пража, якая выкарыстоўваецца для шыцця, вязання.
23. Тое, што ў букварах мые мама.
24. Афіцыйна ўстаноўленая сума збораў, аплаты.

## Адказы на крыжаванку з №42

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Буйло. 3. Ківок. 4. Балет. 6. Куратар. 9. Манеты. 11. Адказ. 12. Асоба. 13. Грамадства. 19. Грыва. 25. Кухня. 27. Сярод.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Гушкацца. 4. Боснія. 5. Келіх. 6. Куртка. 7. Парыж. 8. Віктар. 10. Прага. 13. Грубы. 14. Скема. 15. Ацэнка. 16. Сейф. 17. Полька. 18. Дзедзіч. 20. Гарэлка. 21. Сыты. 22. Атэл.



## ● ГАРАСКОП на 25-31 КАСТРЫЧНІКА


**АВЕН.** Магчыма, вы задумаецеся аб новай прафесіі або працы. Прычыны для гэтых думак наспявалі даўно, але ўрэшце вы зразумееце, ці ўсур'ёз гэта. Памятайце пра вашу галоўную мэту і не дазваляйце яе засланяць тым, што няважна. Слушныя рашэнні паспрыяюць фінансавым здабыткам.


**ЦЯЛЕЦ.** Прыкладзіце крыху намаганняў, і вы зарэкамендуеце сябе з найлепшага боку. Кіраўніцтва высока ацэніць вашу плённую працу і пахваліць за добры вынік.


**БЛІЗНЯТЫ.** На працы будзе даволі напружаны перыяд. Яго варта перачакаць. Пачынайце выконваць самыя галоўныя задачы. Часам падаецца, што прасцей зрабіць пяць дробных спраў, а пасля ўзяцца за вялікую. Але з такім падыходам да вялікай справы рукі могуць так і не дайсці.


**РАК.** Зоркі раяць вам быць як мага больш добразычлівымі да іншых. Часам падаецца, што людзі паводзяць сябе не лепшым чынам. Але наўрад ці вы бачыце ўсю карціну таго, што стала прычынай такіх паводзінаў. У сямейных адносінах недавер да партнёра можа стаць прычынай сваркі.


**ЛЕЎ.** Для вас найбольш спрыяльны час для калектыўнай працы. Вашым калегам спатрэбіцца падтрымка, і вам сапраўды лепш яе даць. Не варта пазбягаць складаных сітуацый. Вам удасца ўсё вырашыць. І абавязкова прысвяціце час дзецям, калі яны ў вас ёсць.


**ДЗЕВА.** Усе справы заканчвайце самастойна, не варта даручаць іх іншым. Укладаць грошы або пазычаць цяпер не варта. З блізкімі лепш не спрачацца, пасля будзе складана вярнуць давер і ўзаемаразуменне.


**ШАЛІ.** Вам варта быць пераборлівымі ў знаёмствах. Давярайце сваёй інтуіцыі ў справах, збірайце больш інфармацыі, каб зрабіць аналіз сітуацыі. Прафесіяналізм дапаможа справіцца з задачамі ў тэрмін.


**СКАРПІЁН.** Час, калі вам давядзецца праявіць кемлівасць і рашучасць у справах. Зоркі раяць прыслухоўвацца да парадаў блізкіх. Вельмі важная ў гэты перыяд сувязь з сям'ёй – абавязкова патэлефануйце сваякам і атрымайце ад іх падтрымку.


**СТРАЛЕЦ.** Вас чакаюць сюрпрызы і прыемныя супадзенні. Вы не будзеце баяцца любых складанасцяў. Наадварот, чым больш цікавыя задачы вас будуць чакаць, тым з большай ахвотай вы будзеце за іх брацца.


**КАЗЯРОГ.** У вас будзе крыху песімістычны настрой, хаця асаблівых прычын для яго не будзе. Блізкім патрэбны ваш клопат. Калі вы ўдзеліце ім дастаткова ўвагі, яны аддзячаць вам нашмат большым.


**ВАДАЛЕЙ.** Вашы думкі будуць пераплятацца самым незвычайным чынам. Гэта дазволіць прыйсці да абсалютна нечаканых высноў. Здавалася б, немагчымыя і схаваныя факты стануць для вас відавочнымі.


**РЫБЫ.** Перыяд будзе афарбаваны ў рамантычныя фарбы. Гэта моцна ўздыме ваш энергетычны рэсурс. Назапашвайце яго, пакуль ёсць добрая магчымасць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 8 | 9 | 7 |
| | | 7 | 3 | | | | 6 | |
| | | | | | 2 | 1 | 3 | |
| 5 | | 8 | 9 | | | | | |
| | | 4 | 5 | | 1 | | 2 | |
| | | 2 | | | 6 | | 5 | 1 |
| 4 | | 6 | | 1 | 3 | | | |
| 8 | | 5 | | | 9 | | | |
| 3 | | | 6 | | | 4 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY






● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Калі б у вас быў мільён долараў, на што вы яго патрацілі б?

Свежы даклад Global Wealth Report швейцарскага банка Credit Suisse сцвярджае, што ў Беларусі каля 7400 доларавых мільянераў. Гэта больш, чым у Грузіі і Літве , але менш чым у Латвіі і Украіне. Прыкладна столькі ж мільянераў у Эстоніі пры насельніцтве ў сем разоў меншым. Па колькасці доларавых мільянераў у пераліку на тысячы жыхароў Беларусь займае апошняе месца ва Усходняй Еўропе.



**Лілія Дараховіч, касір:**
– Я ахвяравала б гэтыя грошы на лячэнне хворых дзяцей.



**Вераніка Зара, спецыяліст па працы з кліентамі:**
– Сёння ж купіла б тры білеты ў Парыж: мне, маёй палавінцы і дзіцяці – яно хоча ў Дыснэйлэнд. Яшчэ апартаменты на ўскраіне сталіцы, каб дзіцяці было камфортна ў будучыні, і дапамагла б дзясятку іншых дзетак, якія ў гэтым маюць патрэбу.



**Аляксандр Закрэўскі, памочнік машыніста:**
– Пакінуў бы сабе 2/3 на куплю жылля і навучання для дзіцяці. Астатняе ахвяраваў бы. Па ініцыятыве жонкі.



**Святлана Харлан, беспрацоўная:**
– Замест прытулкаў стварыла б дамы сямейнага тыпу, каб туды дзеткі траплялі, каб раслі ў любові. Аказала б дапамогу хоспісу, там заўсёды неабходная дапамога, і частку выдзеліла б «Анёлу» на пошукі людзей. А ў мяне ўсё ёсць, пра што марыла. А на што не хапае, заробім.



**Вольга Ласкевіч, спецыяліст па афармленні крэдытаў:**
– На будучыню сваіх дзяцей, частку – на дабрачыннасць, дзецям-сіротам.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## Чытайце праз тыдзень:

● «Рэгіянальная газета» знайшла анлайн-сэрвіс нью-ёркскага порта з архівамі запісаў аб пасажырах, які прыплылі ў ЗША ад 1820 да 1957 года. Спыталіся ў людзей з Беларусі, якія дзякуючы сэрвісу адшукалі інфармацыю пра сваякоў, пра іх гісторыі.



## 26 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 5-6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -9,4°C у 1988 годзе
Максімальная тэмпература +14,8°C у 2004 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,3 мм у 2017 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№43 (1278) 25.10.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1733. Падпісана ў друк у 9.00 24.10.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.